Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# Весьці

## Народнага Камісарыяту Юстыцыі Беларускае ССР.

Зьмест:



№ 8

ЖНІВЕНЬ 1927 г.
1-ы год выданьня.

Менск

# ЗЬМЕСТ.



## Старонка практыка.



## Растлумачэньні.



## Хроніка.



## Частка афіцыйная.

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# ВЕСЬЦІ

Народнага Камісарыяту Юстыцыі Беларускае ССР.

№ 8. Жнівень. 1-ы год выданьня.

## АБ РЭВАЛЮЦЫЙНАЙ ЗАКОННАСЬЦІ Ў ВЁСЦЫ.

Тая шырокая ўвага, якая аддана пытаньню аб рэвалюцыйнай законнасьці наогул і рэвалюцыйнай законнасьці ў вёсцы асабліва нашымі партыйнымі і савецкімі органамі на ўсіх дакладах, нарадах, пленумах і зьездах—кажа аб тым, што пры сапраўдным абарочваньні тварам да вёскі, з гэтым пытаньнем прыходзіцца стыкнуцца яшчэ і яшчэ раз уплатную.

У асаблівых умовах сялянскага быту пытаньне аб рэвалюцыйнай законнасьці—пытаньне кардынальнае, набалеўшае і самае пякучае.

Ужо адна тая акалічнасьць, што ад іншай вёскі да гораду з прычыны далёкай адлегласьці хоць „7 год скачы—не даскачаш“, што адшукваць і васстанаўляць сваё права і атрымоўваць вычэрпваючыя растлумачэньні і паказаньні, шляхам зьвяртаньня за дапамогаю ў горад, большасьці сялянства і фізычна і матар'яльна не пад сілу, а іх скаргі выкладзеныя на паперы, не заўсёды па цэламу шэрагу прычын прыводзяць да пажаданых для жалабшчыка рэзультатаў, а калі і прыводзяць да іх, то звычайна з вялікаю маруднасьцю, калі абскарджанае пытаньне страціла для жалабшчыка сваё рэальнае значэньне, прымушае нас з асаблівою асьцярожнасьцю і пільнасьцю падыйсьці да практычнага вырашэньня пытаньня аб рэвалюцыйнай законнасьці ў вёсцы. Гэта пытаньне павінна вырашацца і быць вырашана так, каб вёска атрымала максымум гарантый у тым, што права паасобнага яе працоўнага члена ня будзе парушана, а ўсякае дапушчанае парушэньне будзе зараз-жа зьнішчацца.

Кіруючыя партыйныя і савецкія органы намецілі цэлы шэраг практычных палажэньняў і мерапрыемстваў, падлягаючых правядзеньню ў жыцьцё ў мэтах умацаваньня рэвалюцыйнай законнасьці ў вёсцы, прапанаваўшы павесьці самую рашучую барацьбу з парушэньнямі законаў, якія маюць месца ў нізавых савецкіх, адміністрацыйных і гаспадарчых органах і ў асаблівасьці ў вёсцы.

Аналізуючы шэраг прычын, якія выклікаюць тое або іншае адхіленьне ад закону, можна сказаць, што асноўных і галоўнейшых з іх тры:

1. Юрыдычная неасьвядомленасьць працаўнікоў нізавога савецкага апарату, няведаньне існуючых законаў і пастаноў, не разуменьне іх альбо фармальны падыход, фармальныя адносіны да закону, кіраўніцтва літарай яго ў ушчэрбак сэнсу і зьместу яго.

2. Поўная юрыдычная няграматнасьць саміх сялянскіх мас, няведаньне імі сваіх асноўных праў і абавязкаў, а адсюль і поўная іх пакінутасьць і абсалютная залежнасьць ад тых распараджэньняў



загадаў, вельмі часта незаконных, якія выдаюцца тымі або іншымі органамі ў большасьці нізавога савецкага апарату.

3. Расхлябанасьць самога апарату, бюракратызм, адарванасьць яго ад сялянскіх гушч, сьвядомае, а іншы раз і злачыннае ўхіленьне ад захоўваньня законнасьці, апраўдваемае звычайна нібы рэвалюцыйнай неабходнасьцю і мэтазгоднасьцю“.

Зьнішчэньне ўсіх гэтых асноўных прычын з вясковага ўжытку —галоўнейшая задача нашых кіруючых органаў.

Часта прыходзіцца чуць ад працаўнікоў, працуючых у нізавых савецкіх апаратах як апраўданьне, спасланьне на адсутнасьць і няведаньне законаў і кодэксаў, у сілу чаго дапускаюцца тыя або іншыя парушэньні. На гэту акалічнасьць трэба зьвярнуць увагу і забясьпечыць нізавыя савецкія апараты адпаведнымі законамі і кодэксамі. Думаецца, што пры наліччы адпаведных законапалажэньняў, наш нізавы працаўнік, азнаёміўшыся з імі, здолее адказаць селяніну пры яго зварочваньнях на цікавячыя яго пытаньні аб землеўпарадкаваньні зямельных спрэчак, падатковых абкладаньнях, каапэрацыі і каапэраваньні сялянства, лясох мясцовага значэньня, аб шлюбе і разводах і г. д. і г. д.

Канечна, усякае недаўменьне, неразуменьне, няяснасьць павінны знайсьці адбітак у адпаведным запытаньні ў вышэйстаячыя органы, якія здолеюць даць належнае растлумачэньне.

Налічча на мясцох неабходных законаў і кодэксаў, дабрасумленнага і жадаючага працаваць працаўніка ўзброіць яго неабходнымі асноўнымі ведамі, а інструктаваньні і растлумачэньні больш вопытных таварышаў і вышэйстаячых органаў паглыбяць і замацуюць гэтыя веды. А ўжо пры такім становішчы рэчаў заява працаўніка нізавога апарату аб няведаньні закону будзе казаць толькі аб яго неадпаведнасьці займаемай пасады, аб расхлябанасьці і нежаданьні працаваць. Можна, канечна, ня ведаць паасобна кожнага закону, але сэнс закону па кожнай галіне, маючай адносіну да работы раённага выканаўчага камітэту ці сельсавету павінен быць ахоплен кожным працаўнікам.

Кожны нізавы працаўнік павінен памятаць, што няведаньне дзейнічаючага асноўнага заканадаўства, стварае няўпэўненасьць ва ўласных дзеяньнях, хістае давер‘е акружаючых, нараджае разнабой у працы, а вельмі часта і незаканамернасьць паміма волі самога працаўніка, нараджае валакіту і ўпаўне грунтоўныя наракакньні і недавольствы з боку сялянства. Гэта павінна быць выжыта.

Невыкананьне закону толькі падрывае ў вачох сялянства аўтарытэт улады, і да таго часу, пакуль закон або распараджэньне не адменены, гэтакія павінны выконвацца.

Ітак, руплівасьць аб атрыманьні належных заканадаўчых матар‘ялаў, удумлівае азнаямленьне з імі, зварочваньне за растлумачэньнямі там, дзе пытаньне няясна, уважлівыя адносіны да патрэб сялян і іх зварочваньням, бязумоўнае выкананьне выдаваемых законаў—вось тое, што ляжыць на абавязку кожнага нізавога працаўніка. Імкненьне дасягнуць гэта—выжыве першую асноўную прычыну, якая нараджае парушэньне рэвалюцыйнай законнасьці ў вёсцы—юрыдычную неасьвядомленасьць і няграматнасьць працаўнікоў нізавога апарату.

Ужо ведаючы закон, сумленны нізавы працаўнік, упэўнены ў сябе і ў сваіх ведах—гэта грунт для зьнішчэньня другой прычыны —праўнай неадукаванасьці самога насельніцтва.

Арганізацыя на мясцох Бюро кансультацый і юрыдычных гурткоў з уцягненьнем культурных і грамадзкіх сіл ў гэту работу (настаўнікаў, ізбачоў і г. д.): правядзеньне гутарак, дакладаў, выезды ў сельсаветы і інструктаваньне апошніх і іншае—гэта другі этап барацьбы за правядзеньне рэвалюцыйнай законнасьці у вёску. Вёска павінна ў асобе свайго нізавога апарату знайсьці бліжэйшага растлумачыцеля закону.

Трэцяя прычына—сьвядомае парушэньне рэвалюцыйнай законнасьці ў сілу расхлябанасьці, нядбайнасьці, маючы нахіл да каманданьня і заканатворству па ўгледжаньню і самавольству, прыкрываемымі „рэвалюцыйнай мэтазгоднасьцю"—сапраўдная контр-рэвалюцыйнасьць і падрыў аўтарытэту савецкай улады і выданых ёю законаў—павінна быць выжыта мерамі судовай і адміністрацыйнай рэпрэсыі і чысткай апарату ад пралезшых у яго нягодных элемэнтаў.

*П. Цыніт.*

## АБ ЗЬМЕСЬЦЕ АБАВЯЗКОВЫХ ПАСТАНОЎ ПА БАРАЦЬБЕ З ПАТРАВАМІ.

Выданае Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў БССР Палажэньне аб парадку выданьня абавязковых пастаноў і аб адміністрацыйным пакараньні за іх парушэньне дае выканаўчым камітэтам права выданьня абавязковых пастаноў па пытаньнях барацьбы з патравамі, з устанаўленьнем за парушэньне прадугледжаных гэтымі пастановамі правілаў адміністрацыйнага пакараньня штрафам і прымусовай працай у межах прадастаўленай выканаўчым камітэтам кампэтэнцыі.

На практыцы паказанае права выканкомаў разумеецца ў тым сэнсе, што выканкомы маюць права забараняць патраву, як гэтакую, пад страхам пакараньня ў адміністрацыйным парадку. Аднак, гэтае тлумачэньне ня можа быць прынята з прычыны таго, што знаходзіцца ў неразьвязальнай супярэчнасьці з крымінальным законам.

Наўмыснае пашкоджаньне чужой маемасьці прадугледжана арт. 196 Крымінальнага Кодэксу, які азначае за гэты ўчынак пакараньне пазбаўленьнем волі ці прымусовай працай на тэрмін да аднаго году ці штрафам у разьмеры да 500 руб.

Паказаны артыкул Крымінальнага Кодэксу ў якасьці неабходнай адзнакі складу караемага ім учынку прадугледжвае наўмыснасьць учынку, без якой наўмыснасьці пашкоджаньне чужой маемасьці ня можа разглядзвацца як злачынства, якое павінна цягнуць за сабой пакараньне. З гэтага вынікае, што закон пакідае беспакараным ненаўмыснае пашкоджаньне чужой маемасьці, г. зн. выпадковае ці неасьцярожнае пашкоджаньне, якое, сьледам гэтага, можа пацягнуць за сабой толькі маемасную адказнасьць у парадку грамадзянскага суду.

Патрава зьяўляецца адным з відаў пашкоджаньня чужой маемасьці і ня траціць гэтага свайго значэньня з прычыны вузкага кругу прыстасаваньня гэтага паняцьця, а іменна толькі да выпад-

каў пашкоджаньня пасеваў і насадак. Дзеля гэтага наўмысная патрава павінна караца паводле арт. 196 КК, што выключае магчымасьць устанаўленьня за ўчыненьне яе адказнасьці ў адміністрацыйным парадку. Таксама выключаецца магчымасьць пакараньня ў адміністрацыйным парадку і патравы ненаўмыснай дзеля таго, што закон, як вышэй паказана, прадугледжвае пакараньне толькі адносна наўмыснага пашкоджаньня чужой маемасьці і пакідае беспакараным пашкоджаньне ненаўмыснае.

Зроблены вывад ад недапушчальнасьці пакараньня патравы ў адміністрацыйным парадку неабходна выклікае пытаньне аб тым, якім-жа чынам узгадніць гэтую недапушчальнасьць дадзеным выканкомам правам выданьня абавязковых пастаноў па барацьбе з патравамі.

У сапраўднасьці гэта зусім не прадстаўляецца цяжкім, калі мець на ўвазе, што паняцьце барацьбы з патравамі абыймае сабой ня толькі прыстасаваньне рэпрэсыўных мер у адносінах ужо зробленай патравы, але таксама і прыняцьце адпаведных мер папераджальнага характару, якія маюць на мэце забарону гэткіх учынкаў, якія могуць мець сваім вынікам патраву, як напрыклад, астаўленьне жывёлы без нагляду, прагон жывёлы па межах і інш.

З гэтага вынікае, што выканкомы, ня маючы права ўстанаўленьня адміністрацыйнага пакараньня за патраву, як гэтакую, бо ўчыненьне яе і ўмовы пакараньня прадугледжаны крымінальным законам, не пазбаўлены, аднак, права прыняцьця папераджальных мер, якія, маючы беспасрэдную сувязь з барацьбой з патравамі, ня будуць, аднак, азначаць пакараньне за патраву ва ўласным сэнсе, але ўстановяць адказнасьць у адміністрацыйным парадку за невыкананьне правілаў папераджальнага характару, незалежна ад таго, ці мела месца патрава ў сапраўднасьці, ці не.

Такім чынам, калі патрава, пры наліччы абавязковай пастановы, якая забараняе астаўленьне жывёлы без нагляду, зроблена жывёлай, якая была пад наглядам, але не па замеру асобы, якая яе дагледжвала, дык у гэтым выпадку можа ўзьнікнуць толькі абавязак адплаціць зробленую матар'яльную шкоду, але не прыстасаваньне мер адміністрацыйнага пакараньня. Калі-ж патрава зьявілася вынікам астаўленьня жывёлы без нагляду, дык віноўная асоба панясе адказнасьць у адміністрацыйным парадку за астаўленьне жывёлы без нагляду (але не за патраву, як гэтакую), дзеля таго, што паказаная адказнасьць зьявілася-б вынікам астаўленьня жывёлы без нагляду і ў тым выпадку, калі-б патрава ў сапраўднасьці зроблена ня была і маемасную адказнасьць у парадку грамадзянскага суду.

Выкладзены пункт погляду ўпаўне тлумачыць кажучуюся супярэчнасьць паміж арт. 196 КК і палажэньнем аб парадку выданьня абавязковых пастаноў.

Цікава падкрэсьліць, што ў практыцы толькі патрава выклікае сумненьні адносна зьместу абавязковых пастаноў, якія маюць на мэце барацьбу з ёй. Гэта можна вытлумачыць тым, што патрава, як распаўсюджанае грамадзкае зло, патрабуе прыстасаваньня мер хуткай і рашучай барацьбы. Іншыя ўчынкі, як напрыклад, хуліганства, не ўзбуджаюць у гэтай галіне ніякага сумненьня, і лічацца бясспрэчным, што абавязковая пастанова ня можа ўстанаўляць адказнасьці ў адміністрацыйным парадку за яго ўчыненьне, але можа прадугледжваць толькі меры папераджальнага характару, як напрыклад, нашэньне разінавых стэкаў, кастэтаў і інш., хоць прын-

цыпіяльнай розьнасьці ў гэтай адносіне паміж патравай і хуліганствам няма, і хуліганства ня менш за патраву патрабуе прыняцьця мер хуткай і рашучай барацьбы.

У кожным выпадку меркаваньні практычнага характару ня могуць адмяніць чыннасьці закону і могуць толькі паслужыць падставай для зьмены існуючага парадку шляхам выданьня адпаведнага закону.

*Г. Кацін.*

## АБ ГАСПАДАРЧЫХ ЗЛАЧЫНСТВАХ. *)

(ПРАЦЯГ).

Калі ў папярэднім нумары „Весьці“ мы спыніліся на арт. 128 Крымінальнага Кодэксу, які прадугледжвае безгаспадарчасьць стаячых на чале дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў асоб, то арт. 128-а Крым. Код. прадугледжвае заключэньне ня толькі кіраўнікоў дзяржаўнай установы або прадпрыемства, а наогул асобай, якая ўпаўнаважана дзейнічаць ад іх імя, стратных дагавораў або ўгод у тым выпадку, калі яны прывялі да вынікаў, якія паказаны ў асноўным артыкуле Крым. Код., г. зн. закончыліся марнатрацтвам дзяржаўнай маемасьці, або трудна сплачваемым ушчэрбкам.

Артыкул гэты таксама складаецца з 2-х частак. Для складу злачынства па 1-й часьці гэтага артыкулу патрабуецца тры адзнакі альбо моманты: 1) заключэньне дагавору або ўгоды; 2) наліччa неасьцярожнай віны на старане агэнта казны, які ў момант уступленьня ў дагавор мог ці павінен быў бачыць яго стратнасьць для дзяржавы, аднак, ня прыняў неабходных мер для забесьпячэньня інтарэсаў дзяржавы і 3) наліччa нявыгадных вынікаў—растачэньне або ўшчэрбку дзяржаўнай маемасьці.

Такім парадкам, мы бачым, што закон патрабуе ад асобы, якая гаспадарыць, пэўнага вопыту, асьцярожнасьці і праніклівасьці ў справе, за якую ён узяўся, альбо да якой прыстаўлен. Пагэтаму, пры заключэньні ўгод асоба, якая гаспадарыць, пад страхам крымінальнай кары, абавязана прадбачыць магчымыя страты і не заключаць дагавораў пры ўмовах, пагражаючых стратамі ўстанове альбо прадпрыемству.

Пры гэтым пад дагаворам або ўгодай належыць разумець наогул і пісьмовы акт, утвараючы дагаворныя праваадносіны для старон, хоць-бы і аднабаковы (нарад, ордэр, загад, заказ і інш.). Пры іншым, больш вузкім тлумачэньні паняцьця дагавору або ўгоды аказаліся-б свабоднымі ад крымінальнай адказнасьці ўпаўнаважныя дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, якія заключаюць стратныя славесныя дагаворы і афармляючыя іх потым аднабаковым актам.

Трэба мець на ўвазе, што пры расьсьледваньні злачынстваў гэтага роду аднолькава каштоўны і дакумэнты і сьведчыя паказаньні. Перш за ўсё, канечна, трэба вытрабаваць акт першатвору, устанаўліваючы наяўнасьць угоды і старацца вывучаць яго, з мэтаю ўстанавіць ступень стратнасьці гэтага акту для дзяржаўнага органу

*) Глядзі 6—7 нумар „Весьці“.

і ступень гаспадарчай неасьцярожнасьці прадстаўніка, няпрыняўшага неабходных мер забесьпячэньня ад пагражаючых страт. Тут могуць патрабавацца і экспэрты па гандлёвай справе або прамысловасьці і сьведкі самага заключэньня ўгоды, і спраўкі з адпаведных афіцыйных органаў аб цэнах, аб становішчы рынку і інш.

Дасьледваючы стратнасьць угоды, неабходна грунтоўна праверыць ці сапраўды можна было прадбачыць гэту стратнасьць у самы момант заключэньня дагавору і ці ня ўзьнікла яна ў залежнасьці ад якіх небудзь пазьней наступіўшых умоў (напрыклад, рэзкай і раптоўнай зьмены рыначных цэн), якія ўплывалі ў працэсе выкананьня дагавору і якіх нельга было прадбачыць пры самым уступленьні ў угоду. Наогул тут патрабуецца тая-ж асьцярожнасьць, неабходнасьць, якую мы адзначалі пры разглядзе артыкулу 128 Крым. Код. і тая-ж тонкая распрацоўка матар'ялаў.

Калі 1-я частка арт. 128 Крым. Код. прадугледжвае неасьцярожнае заключэньне ўпаўнаважаным дзяржаўнага органу або прадпрыемства стратнай угоды, то 2-я яго частка разьлічана на барацьбу ўжо з умысным прычыненьнем ушчэрбку дзяржаве шляхам заключэньня яўна нявыгадных для дзяржаўнага органу ўгод. Там неасьцярожная віна прадстаўніка дзяржаўнай установы або прадпрыемства выражалася ў няпрыняцьці неабходных мер, у інтарэсах дзяржавы. Тут—умысная віна выліваецца ў пэўную форму: 1) „забастоўкі з кантрагэнтамі", альбо 2) „намераная перавага іх выгады выгадзе дзяржавы". Такім чынам, тут склад злачынства некалькі іншы; тут таксама павінна быць наяўнасьць і заключэньне ўгоды і ўшчэрбак і марнатрацтва маемасьці, але трэцяю адзнакаю злачынства выступае ўжо злосны ўмысел прадстаўніка, альбо стачка яго з кантрагэнтамі (разумеецца, у ўшчэрбак дзяржаве), або сьвядомая перавага выгады прыватнай асобы, хоць і бяз стачкі, г. зн. папярэдняй згоды з ім. У гэтай галіне перад сьледчым стаіць задача стараннага і шырокага высьвятленьня галоўным чынам пры дапамозе сьведчых паказаньняў, як тых асабістых адносін, якія існавалі ў прадстаўніка дзяржоргану з прыватным кантрагэнтам, так вобразу жыцьця западозранай асобы, кругу яе знаёмстваў, а таксама і тых асоб, праз якіх ён пазнаёміўся або ўпяршыню стыкнуўся з кантрагэнтамі. Тут прыгадзяцца ўсе сьведкі, пачынаючы ад саслужыўцаў альбо сакватарантаў і канчаючы растаранамі і шынкарамі, у установах якіх западозраны прадстаўнік дзяржаўнага органу меў спатканьне з „дзелавымі" людзьмі.

Што тычыцца пакараемасьці па 1-й і 2-й часьці арт. 128 Крым. Код., то ён таксама рэзка розьніцца з асноўным 128 арт. Крым. Код.: 1-я частка назначае прымусовыя працы або пазбаўленьне волі на тэрмін ня ніжэй шасьці месяцаў, тады, як 2-я часьць пагражае тымі-ж суровымі карамі, якія ўстаноўлены і ва 2-й часьці арт. 128 Крым. Код., г. зн. расстрэлам альбо пазбаўленьнем волі ня ніжэй 5-ці год са строгім ізаляваньнем і канфіскацыяй усёй маемасьці.

Калі арт. арт. 128 і 128-а Крым. Код. разьлічаны на злачынную дзейнасьць кіраўнікоў і прадстаўнікоў дзяржаўных органаў і могуць пашыраць свае дзеяньне на прыватных асоб, толькі як саўдзельнікаў у службовым злачынстве пры наліччы „згавору" альбо „стачкі" з імі службовай асобай (2 я часьць арт. арт. 128 і 128 а Крым. Код.), то арт. 130 Крым. Код. ёсьць спэцыяльная прылада абароны дзяржавы супроць прыватнага капіталу. Тут, віноўнік прыватная асоба —контр-агэнт дзяржавы.

У гэтым артыкуле яскрава выступае выключная асаблівасьць нашага заканадаўства, прадыктаваная асаблівасьцю савецкага гаспадарчага ладу і тэй абставінай вострай і напруджанай барацьбы з нэпманствуючай буржуазіяй, якая досыць падрабязна была намі ахарактарызавана.

Па дарэвалюцыйнаму расейскаму праву і па законах буржуазных краін невыкананьне абавязальнасьці па грамадзянскіх угодах, хоць бы і з дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі не цягнула і ня цягне крымінальных пасьледкаў, а давала і дае права падаваньня грамадзянскага іску да парушнікаў дагавору. Дзяржава там ня цікавілася, па якіх матывах і акалічнасьцях яе кантрагэнт, падрадчык, арандатар, пастаўшчык—ня выканаў абавязацельства па дагавору.

У савецкай дзяржаве, дзе публічны інтарэс калектыву пануе над інтарэсам прыватных асоб, у выпадках небясьпечнага стыку гэтых двух інтарэсаў, матыў невыкананьня дагавору, заключанага з дзяржаўным органам, далёка не безразьлічан.

Так, дзяржава тут рашуча імкнецца адпугнуць ад сябе на вялікую адлегласьць усе тыя недабрасумленныя і злаўмысныя элемэнты прыватнага прадпрыемстваваньня, якія прагавіта ліпнуць к дзяржаўнаму сундуку і, падхозячы к яму пад маскаю паважнага кантрагэнта, па сутнасьці зьяўляюцца ашуканцамі і абманшчыкамі. Арт. 130 Крым. Код. карае ня вузкае невыкананьне кантрагэнтам прынятай на сябе па ўгодзе абавязальнасьці перад дзяржавай, а толькі такое, у адносінах якой даказан „загадзя зланамерны характар невыкананьня або іншыя заведама недабрасумленныя ў адносінах да дзяржавы дзеяньні“.

Такім парадкам, для складу злачынства па арт. 130 Крым. Код патрабуецца дзьве галоўных адзнакі: 1) каб была наяўнасьць невыкананьня кантрагэнтам яго ўгоды з дзяржаўным органам і 2) каб быў даказан ці заведама зланамерны характар гэтага невыкананьня, г. зн. умысел ня выконваць дагавор, альбо заведама недабрасумленныя дзеяньні, г. зн. грубае нядбайства, або злачынная саманадзейнасьць кантрагэнта, у выніку якіх дагавор аказаўся нявыкананым.

Усе паказаныя даныя ў адносінах іншых гаспадарчых злачынстваў, цалкам прыстасаваны да расьсьледваньня злачынстваў, прадугледжаных арт. 130 Крым. Код. Тут сьледчаму трэба дакладна ўстанавіць сутнасьць абавязальнасьці, высьветліць фактычную выканальнасьць яго кантрагэнтам у ўстаноўленыя тэрміны, а роўна і налічча ў кантрагэнта патрэбных для выкананьня сродкаў ў момант прыняцьця на сябе абавязальнасьці. Трэба таксама ўстанавіць, калі і якія іменна сумы адпускаліся кантрагэнту ў відзе авансу дзяржаўным органам і якое назначэньне даў ім кантрагэнт у працэсе выкананьня дагавору да моманту адмовы ад далейшага выкананьня альбо да моманту выяўленьня яго недабрасумленных дзеяньняў.

Барацьба з драпежнікамі, апэрыруючымі з дзяржаўнымі сродкамі пад відам дзяльцоў, якія аказваюць паслугі дзяржаве за ўзнагароду і зланамерана ў інтарэсах нажывы, уводзячых у абман і памылкі дзярж. органы, павінны весьціся бязьлітасна. І з тае прычыны, што ў такіх справах звычайна няпрыкметнымі путамі бываюць зьвязаны цэлыя групы драпежнікаў і іх пасрэднікі, то па гэтых справах належыць высьветліць і саўдзельнічаньне датыкальных асоб, к рукам якіх таксама ліпнуць казённыя грошы.

Не абмяжоўваючыся асадкамі карных норм, саўдзельнічаньне такіх асоб можна кваліфікаваць, калі не дапасавальна да арт. 15—16 Крым. Код., то як самастойнае дзеяньне па прыметах арт. арт. 187—188 Крым. Код.

Вот тыя асноўныя кіруючыя паказаньні, якія ня дрэнна памятаць кожнаму, хто заклікан да барацьбы з злачыннасьцю на гаспадарчым фронце.

*П. Цыніт.*

## НОВАЎВЯДЗЕНЬНЕ Ў ДЗЯРЖАЎНЫМ НАТАРЫЯЦЕ БССР.

У разьвіцьцё асноўных прынцыпаў агульнасаюзнага закону аб дзяржаўным натарыяце, ЦВК і СНК БССР ўзамен натарыяльнага палажэньня за 6 сакавіка 1925 г. зацьвердзіў і ўвёў у дзеяньне з 1 студзеня 1927 г. на ўсёй тэрыторыі БССР ў межах 1927 г. новае палажэньне аб Дзяржаўным Натарыяце, па якому значна пашыраны дзеяньні натарыяльных кантор у параўнаньні з папярэднім палажэньнем аб натарыяце. На натарыяльныя канторы БССР, апроч выконваемых імі натарыяльных дзеяньняў, ускладаецца ў першы раз: 1) натарыяльнае пасьведчаньне ўгод; 2) рэгістрацыя арыштаў, накладаемых на будову і права забудоўкі, а роўна зьмен і зьняцьце іх і 3) прыняцьце ў дэпазіт для перадачы па прыналежнасьці плацяжоў па прад'яўленых да пратэсту вэксалёх.

Першым новаўвядзеньнем, у асноўным, зьменен і спрошчан самы парадак выкананьня натарыяльных дзеяньняў. Па ранейшаму натарыяльнаму палажэньню адна частка ўгод учынілася ў натарыяльных канторах пасрэдствам унясеньня іх (ад рукі) у актавую натарыяльную кнігу, пры чым дагаворы аб найме дзяржаўных прадпрыемстваў і аб устанаўленьні права забудоўкі прылучаліся да раней учыненых такім-жа дагаворам і ўтваралі асобную ад астатніх актаў—актавую кнігу, а другая—засьвядчалася пасрэдствам учыненьня на іх адпаведных натарыяльных надпісаў.

Істотная розьніца між тэрмінамі „учыненьня“ або „засьведчаньня“ угод заключалася ў тым, што пры ўчыненьні ўгоды асноўны першы паасобнік, як унесены ў актавую кнігу заставаўся ў ёй, а старане выдавалася галоўная выпіска з актавай кнігі, каторая і замяняла ва ўсім сапраўдную ўгоду. Пры засьведчаньні, наадварот, засьведчаны першатворны паасобнік угоды выдаваўся старане, а копія з яго заставалася пры справах канторы.

Па новаму палажэньню аб Дзяржаўным Натарыяце няма ні ўчыненьня, ні засьведчаньня ўгод, а ўведзен адзін агульны парадак натарыяльнага пасьведчаньня ўсякага роду ўгод. Такі адзіны парадак пасьведчаньня ўгод уведзен і ва ўсіх саюзных рэспубліках. Значыць, новым палажэньнем два віды натарыяльных дзеяньняў заменены ў адзін і цяпер кожная ўгода павінна быць натарыяльна засьведчана. Ранейшы тэрмін „засьведчаньня“ прадугледжан таксама і новым натарыяльным палажэньнем, але ён цалком адносіцца да дакумэнтаў ня маючых характару ўгод. У сучасны момант засьвядчаецца вернасьць копій дакумэнтаў, выпісак з кніг і дакумэнтаў, сапраўднасьць подпісаў на дакумэнтах, знахаджэньне асобы ў пэўным месцы

і час прад'яўленьня дакумэнту. Гэтыя два віды натарыяльных дзеяньняў адбіваюць розьніцу між натарыяльным пасьведчаньнем угод і засьведчаньнем дакумэнтаў не зьяўляючыхся ўгодамі тым, што пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод натарыус абавязан праверыць праваздольнасьць і дзеяздольнасьць старон, якія прымаюць удзел у ўгодзе, а пры засьведчаньні копій дакумэнтаў, подпісаў і г. д., гэтакай праверкі не патрабуецца.

Вядзеньне спэцыяльных актавых натарыяльных кніг, а роўна і пратакольнае ўчыненьне натарыяльных актаў скасавана; узамен-жа актавай кнігі, з асноўных „першых паасобнікаў“ натарыяльна пасьведчаных угод і даверанасьцяй, застаўляемых у натарыяльных канторах, утвараецца актавы зборнік, прадугледжаны пунктам „з“ арт. 12 палажэньня аб натарыяце. Застаўляемыя ў натарыяльнай канторы паасобнікі першатвораў (асноўныя) угод неадкладна прылучаюцца да раней пасьведчаных угод у храналёгічным парадку.

Прылажэньне да ўгоды, складаючае з ёю непадзельнае цэлае ў сілу закону (напрыклад, арт. 153 Грам. Кодэксу) або самой угоды прылучаюцца ў актавы зборнік разам з угодай.

У агуле, пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод неабходна правяраць наяўнасьць і сапраўднасьць подпісаў асоб удзельнічаючых у ўгодзе, іх права і дзеяздольнасьць, законнасьць угоды і аплату ўсіх прадстаўленых дакумэнтаў устаноўленымі зборамі. Апрача таго, пры натарыяльным пасьведчаньні ўгод аб адчужэньні: заставе будовы або права забудовы абавязкова належыць упэўніцца ў прыналежнасьці маемасьці асобе, якая адчужае і закладае, а таксама ў адсутнічаньні арышту, перашкаджаючага ўчыненьню ўгоды.

Па ранейшаму палажэньню аб натарыяце ўчыняемыя ў натарыяльным парадку акты і засьвядчаемыя дакумэнты маглі быць выкладзены на беларускай і расейскай мове або на мясцовых чужаземных мовах, але ў апошнім выпадку з абавязковым перакладам акту і дакумэнту на беларускую або расейскую мову.

Новым натарыяльным палажэньнем парадак гэты зьменен і цяпер усякага роду ўгоды і дакумэнты могуць быць напісаны на аднэй з дзяржаўных моў БССР: беларускай, яўрэйскай, польскай і рускай. Значыць, угоды або дакумэнты, падлягаючыя пасьведчаньню або засьведчаню ў натарыяльным парадку, па жаданьню старон, могуць быць выкладзены на кожнай мясцовай дзяржаўнай мове. Пры такім парадку выкладаньня ўгод і дакумэнтаў, кожны грамадзянін БССР мае поўную магчымасьць карыстаньня сваёй роднай мовай у яго зносінах з натарыяльнымі органамі рэспублікі і ў зносінах з ім, пры яго зьвяртаньнях у гэтыя органы для выкананьня таго або іншага натарыяльнага дзеяньня.

Такі парадак бясспрэчна дасьць магчымасьць і шырокага грамадзкага кантролю над дзейнасьцю дзяржаўных кантор. Але пры ўсім гэтым, на вялікі жаль, прыходзіцца канстатаваць, што ня ўсе натарыусы ведаюць чатыры дзяржаўных мовы. Праўда, артыкул 11 пастановы 2-ой сэсіі ЦВК Саветаў БССР 6 скліканьня за 15 ліпеня 1924 г. (З. З. № 11, арт. 108) патрабуе ад кожнага супрацоўніка ведаў толькі беларускай і расейскай моваў. Значыцца, пры прадстаўленьні ўгоды або дакумэнту, пісаных на яўрэйскай або польскай мове, пераклад на беларускую мову, як прынятую у дзелаводзтве ўрадавых устаноў, робіцца бясплатна натарыусам або супрацоўнікам канторы, а пры ня веданьні імі гэтай мовы, пераклад робіцца за рахунак канторы асобай асабова вядомай натарыусу.

Калі-ж будзе прадстаўлена ў кантору ўгода або дакумэнт на адной з чужаземных моў, то ў гэтым выпадку, павінны быць прыкладзены і пераклады іх, якія робяцца за рахунак толькі саміх асоб, якія прадставілі ўгоду або дакумэнт.

Правільнасьць такога перакладу пасьвядчаецца парадкам устаноўленым арт. 18 Палажэньня аб Дзяржаўным Натарыяце.

Пры новым парадку пасьведчаньня ўгод, кампэнтэнцыя дзяржаўных натарыусаў у значнай меры пашырана. Новым палажэньнем аб натарыяце, хоць і прадугледжана правіла папярэдняга палажэньня аб тым, што натарыусы не разглядаюць мэтазгоднасьці прадстаўляемых у кантору для пасьведчаньня ўгод і дакумэнтаў, выгаднасьці і стратнасьці іх для старон, але ў той-жа час уведзена і другое правіла, што натарыусы, пры ўчыненьні тых або іншых натарыяльных дзеяньняў, абавязаны актыўна садзейнічаць працоўным да абароны іх праў і законных інтарэсаў, каб іх юрыдычная несьвядомасьць, малаграматнасьць і падобныя гэтаму акалічнасьці не маглі быць выкарыстаны ім на шкоду.

Гэта значыць, што ў асноўным, пытаньне аб выгаднасьці або стратнасьці ўгоды вырашаецца самімі старанамі, але ў той жа час натарыус павінен стаяць на варце інтарэсаў працоўных, растлумачваць ім усебаковае значэньне заключаемых імі ўгод, права і абавязкі іх па такіх угодах і гэтым самым будзе папярэджана магчымасьць абагачэньня адной стараны за рахунак другой. У агуле дзяржаўныя натарыусы нясуць адказнасьць за ўпушчэньне ў выпадках неадпаведнасьці патрабуемых ад іх дзеяньняў і прадстаўляемых ім угод і дакумэнтаў паказаньням закону.

Па ранейшаму палажэньню аб натарыяце забараненьні (арышты) на будовы і права забудоўкі рэгістраваліся ў натарыяльным п/аддзеле НКЮ.

Новым палажэньнем парадак гэты адменен і да функцый натарыяльных кантор аднесена рэгістрацыя арыштаў, накладаемых на немуніцыпалізаваныя будовы і права забудоўкі, а роўна і зьняцьце іх. Рэгістрацыя гэта ажыцьцяўляецца па месцу знаходжэньня будовы і падлягаючых забудоўцы вучасткаў адпаведнымі акруговымі натарыяльнымі канторамі.

У сувязі з зьменай парадку рэгістрацыі арыштаў уводзяцца і новыя правілы навядзеньня і выдачы справак старанам для натарыяльнага пасьведчаньня ўгод. Так, калі натарыяльнае пасьведчаньне ўгоды аб адчужэньні або залогу будовы або права забудоўкі вытвараецца ў той канторы, у якой асерадкавана рэгістрацыя арыштаў, натарыус наводзіць бясплаўна спраўку аб арыштах пры самым натарыяльным пасьведчаньні ўгоды. Але, калі ўгода пасьвядчаецца ў раённай натарыяльнай канторы, у якой спраўкі аб арыштах на маемасьць, якая складае прадмет угоды, не вядуцца, то к натарыяльнаму пасьведчаньню ўгоды павінна быць прадстаўлена старанай спраўка падлягаючай акруговай канторы, аплачаная адпаведнымі зборамі.

Пры такім парадку рэгістрацыі арыштаў, навядзеньня і атрыманьня справак, упрасьціцца і ўскорыцца натарыяльнае пасьведчаньне актаў, бяз лішніх выдаткаў і траты часу для насельніцтва.

Новым палажэньнем у першы раз прадугледжан парадак прыняцьця ў дэпазыт натарыяльных кантор плацяжоў па прад'яўленых да пратэсту вэксалёх.

Для гэтай мэты пры акруговых і некаторых раённых грашовых органах адчынены дэпазыты для дзяржаўных натарыяльных кантор. У кожнай гэтакай канторы павінна весьціся дэпазытная кніга. Дэпазыты маюць спэцыяльнае назначэньне—„прыняцьце ў іх для перадачы па прыналежнасьці плацяжоў па прад'яўленых да пратэсту вэксалёх".

Усе гэтыя новыя функцыі натарыяльных кантор маюць на ўвазе прыбліжэньне натарыяту да працоўных мас, спрашчэньне натарыяльных дзеяньняў і дастаўленьне ўдобстваў насельніцтву.

Такое прыбліжэньне натарыяльных кантор к масам паслужыць яшчэ к большай сувязі працоўнага насельніцтва з Дзяржаўным Натарыятам.

*М. Малёнак.*

# Старонка практыка.

## АБ АРТ. 99 КРЫМІНАЛЬНАГА КОДЭКСУ.

Парушэньне правілаў аб ахове лясоў прадугледжана і караецца арт. 99 К. К. і пры першай парубцы лесу справа разглядаецца адміністрацыйна, раённым выканаўчым камітэтам, а пры паўторнай— нарсудом, па 2 ч. гэтага артыкулу.

Да гэтага парадку абежнікам Н. К. Ю. ад 31-VIII—1925 г. за № 33/40 дапасована і парушэньне правілаў аховы лясоў мясцовага значэньня. Здаецца, быццам як-бы ўжо пытаньне аб гэтым і скончана, але ў практыцы на мясцох сустракаецца вялікае непаразуменьне. Да лясоў мясцовага значэньня, як вядома, аднесены больш-менш значныя лясныя плошчы, якія прызнана немэтазгодным пакідаць у лясох дзяржаўнага значэньня; гэтыя плошчы перададзены сялянам у іх ахоўваньне і толькі карыстаньне робіцца па пляну ляснога ведамства і аб гэтых лясох гаворыць абежнік Н. К. Ю. № 33/40, але-ж апрачі гэтакіх больш-менш значных лясоў, у нас ёсьць многа невялічкіх лясных плошчаў, да 1 дзесяціны, якія да лясоў мясцовага значэньня не адышлі, а проста засталіся за землякарыстальнікамі, на землях якіх яны знаходзяцца і засталіся ў іх уласным карыстаньні і ахове. Апрача гэтакіх плошчаў ёсьць шмат сенажацяй з асобна растучымі дрэвамі.

Усе гэтыя дробныя лясы і зарасьлі, разам узятыя, складаюць значную каштоўнасьць у лясным багацьці рэспублікі, і ў ахове іх сяляне надзвычайна зацікаўлены; калі даходзіць пытаньне да справы аб пакараньні за сваявольныя парубкі і зьнішчэньні ў гэтых лясох, то землякарыстальнікі ня ведаюць як ім бараніць свае багацьце ад злачынцаў; з боку-ж мясцовай ўлады на гэты конт ня маецца належных паказаньняў. Справа ў тым, што райвыканкомы ня прымаюць іх скаргі аб парубках для разгляду па 1 ч. арт. 99 К. К., лічачы што арт .99 К. К. прадугледжвае толькі лясы дзяржаўныя і лясы мясцовага значэньня памянёныя вышэй і накіроўваюць зацікаўленых у ахове гэтых нязначных лясных плошчаў у народны суд. У народных судох кваліфікацыя гэтых парубак таксама застаецца ня вырашанаю: адны працаўнікі судоў кажуць, што трэба караць па 103, другія па 180-а, а трэція па арт. 196 К. К.

Аб прасьледваньні гэтакіх парубак па арт. 180 К. К. атрымаў прапанову і я на пленуме акруговага суду.

Згадзіцца з тым, што гэта злачынства падыходзіць да кражы, мне здаецца, ня можна, бо, папершае, тут парубка робіцца з пня, а не бярэцца гатовае, падругое, да садовых дрэў лясныя дрэвы прыраўняць таксама нельга, а галоўнае, такое пакараньне па арт. 180 К. К. не адпавядала-б пакараньню за дзяржаўныя лясы, бо вышла-б такое становішча, што дзяржаўная маемасьць слабей ахоўваецца законам, чым прыватная. Далей да арт. 196 К. К. таксама не падыходзіць, бо тут няма таго наўмыснага папсаваньня чужой маемасьці, якое прадугледжвае гэты арт., а ёсьць захват толькі чужога.

Такім чынам, калі згадзіцца з поглядам узятым Р. В. К. і растлумачэньнем Адм. Аддзелу Менакрвыканкому ад 30 сакавіка 1927 г. за № 2928, аб непадпарадкаванасьці гэтых спраў Р. В. К. у адміністрацыйным парадку, то прыдзецца хутчэй усяго спыніцца на арт. 103 К. К. і лічыць гэта злачынства як сваявольны захоп чужой маемасьці, як да гэтага часу мною і практыкуецца, але ўсё-ж такі з свайго боку я лічыў-бы, што паколькі такія лясы складаюць значную частку ў лясным багацьці краіны, паколькі дзяржава наогул зацікаўлена ў іх ахове, то прасьледваньне за сваявольныя парубкі ў гэтых лясох неабходна прыраўняць к прасьледваньню за пасечкі лясоў мясцовага значэньня і справы аб іх разглядаць у парадку арт. 99 К. К., што датычыцца спагнаньня кошту сьсьсечанага, то апошні мог-бы спаганяцца хоць-бы па прадажнай лясной таксе ў карысьць пацярпеўшага, разам з налажэньнем кары пастановай Р. В. К. Довадам злачынства можа служыць па прыкладу пратаколу лясной варты і пратакол упаўнаважанага па лясох мясцовага значэньня, пратакол сельсавету складзены па заяве пацярпеўшага ў належнай форме. Зьмяшчаючы сваю думку аб гэтай недарэчнасьці на мясцох, я спадзяюся, што належныя ўстановы дадуць адпаведнае на гэта тлумачэньне.

*В. Пукальчык.*

# Растлумачэньні.

**Па пытаньню аб тым, ці вызваляецца заработная плата народных сьледчых ад абкладаньня сельска-гаспадарчым падаткам.**

На запытаньне Гомельскага Акруговага Пракурора аб тым, ці падыходзяць народныя сьледчыя да тэй катэгорыі працаўнікоў, заработная плата якіх. паводле палажэньня аб сельска-гаспадарчым падатку, не падлягае абкладаньню сельска-гаспадарчым падаткам, Народны Камісарыят Юстыцыі дае наступнае тлумачэньне:

Паказаны ў п. „г“ арт. 4 Палажэньня аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку на 1926-1927 бюджэтны год пералік асоб, заработная плата якіх ня прыцягваецца да абкладаньня сельска-гаспадарчым падаткам, зьяўляецца вычэрпваючым, і значыцца, правіла арт. 4 Палажэньня не распаўсюджваецца на асоб, якія не паказаны ў п. „г“ гэтага артыкулу.

Аднак, маючы на ўвазе тое, што заработная плата народных сьледчых зьяўляецца больш нізкай у параўнаньні з акладам, атрымоўваемым народнымі судзьдзямі, якія ўключаны ў лік асоб, заработная плата якіх не абкладаецца сельска-гаспадарчым падаткам, абкладаньне гэтым падаткам заработнай платы народных сьледчых у паасобных выпадках можа быць немэтазгодным і непажаданым.

Паводле арт. 3 Палажэньня аб сельгаспадатку на 1926-1927 бюджэтны год, выканаўчым камітэтам дадзена права дазваляць падатковым камісіям ня прыцягваюць да абкладаньня прыбыткаў ад неземляробчых заработкаў у паасобных гаспадарках, дзе гэтыя заработкі маюць малое значэньне (З. З. БССР за 1926 г. № 30, арт. 192).

З сказанага выцякае, што заработная плата народных сьледчых, хоць і не вызваляецца, па агульнаму правілу, ад абкладаньня сельгаспадаткам, аднак, можа быць ад абкладаньня вызвалена ў парадку арт. 3 Палаж. аб сельгаспадатку.

---

**Па пытаньню аб тым, ці могуць быць членамі сельска-гаспадарчых каапэрацыйных аб'яднаньняў асобы, пазбаўленыя выбарчых правоў ў саветы.**

На запытаньне Беларускага Сельска-Гаспадарчага Банку Народны Камісарыят Юстыцыі растлумачвае, што паводле арт. 1-га пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР „Аб сельска-гаспадарчай каапэрацыі“ (З. З. 1924 г. № 5, арт. 61) права арганізоўваць каапэрацыйныя аб'яд-

наньні даецца ўсім грамадзянам СССР, якія займаюцца сельскай гаспадаркаю, або зьвязаным з ёю промыслам і карыстаюцца правам выбару ў саветы. Паводле гэтага ў сельска-гаспадарчых каапэрацыйных таварыствах ня могуць браць удзел асобы, якія пазбаўлены выбарчых правоў, хоць-бы яны і займаліся сельскай гаспадаркай.

Паводле арт. 3 „Палажэньня аб каапэрацыйным крэдыце“ (З. З. СССР 27 г., № 4, арт. 44), членамі сельска-гаспадарчага крэдытнага таварыства маюць права быць асобы, якія маюць права быць членамі сельска-гаспадарчых каапэратываў.

## Аб тэрміну даўнасьці для спыненьня адміністрацыйных спраў.

Народны Камісарыят Юстыцыі па запытаньню Віцебскага Акруговага Выканаўчага Камітэту растлумачвае:

Адміністрацыйныя пакараньні накладаюцца акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі ў парадку, прадугледжаным „Палажэньнем аб парадку выданьня абавязковых пастаноў і аб адміністрацыйным пакараньні за іх парушэньне за 10 ліпеня 1925 г. (З. З. 1925 г. № 31, арт. 288).

Паводле п. „в“ арт. 11 гэтага палажэньня справа аб правапарушэньні, якое караецца адміністрацыйнаю караю, можа ўздымацца не пазьней за два месяцы з дню парушэньня і належыць разгляду на працягу месяца з часу яе ўзьняцьця, дзеля гэтага, калі аб парушэньні справа ня была ўзбуджана на працягу двух месяцаў з дню парушэньня, гэта значыць не адбылося пастановы аб прыцягненьні да адказнасьці, справа спыняецца і парушнік ад адказнасьці аслабаняецца. Таксама парушнік аслабаняецца ад адказнасьці, калі на працягу аднаго месяца з дню пастановы аб прыцягненьні да адказнасьці не адбудзецца пастановы аб адміністрацыйным пакараньні.

Такім парадкам, інспэктар працы мае для допыту і расьсьледваньня ня месячны, а двухмесячны тэрмін з дню парушэньня, а гарсавет для накладаньня пакараньня —адзін месяц з дню пастановы аб прыцягненьні да адказнасьці.

## Па пытаньню аб скасаваньні шлюбу тых асоб, адна з якіх знаходзіцца на зьлячэньні душэўнай хваробы.

Народны Камісарыят Юстыцыі па запытаньню аднаго з Кіраўніцтваў Акруговай Міліцыі тлумачыць, што Кодэкс Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы не забараняе скасаваньня шлюбу тых асоб, адна з якіх душэўна-хворая. Але пры рэгістрацыі скасаваньня шлюбу павінны быць забясьпечаны інтарэсы супругаў. Перш за ўсё павінны быць выкананы ўсе фармальнасьці, прадугледжаныя арт. 21 дадатку 1 да кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы.

Калі адзін з супругаў прызнан у законным парадку душэўна-хворым, ад яго імя павінен дзейнічаць апякун.

Калі гэты душэўна-хворы знаходзіцца ў установе Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя, то гэтай установе надаюцца, паводле арт. 97 Кодэксу Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, правы і абавязкі апякуна.

Такім чынам, орган ЗАГС, у які падаюцца аднабаковыя заявы грамадзян аб скасаваньні шлюбу, павінен зьвяртацца да гэтага апякуна, альбо, калі ён яшчэ ня вызначан, то да органаў апекі і папячыцельства.

# АГЛЯД ВАЖНЕЙШЫХ АКТАЎ САВЕЦКАГА ЗАКАНАДАЎСТВА, АПУБЛІКАВАНЫХ ЗА ЧАС АД I-VI ДА I-VII—1927 Г.

## А. ПАСТАНОВЫ УРАДУ СССР.

### *I. Народная гаспадарка.*

1. Пастановай ЦВК і СНК за 11 мая 1927 г. зацьверджана новае **Палажэньне аб дзяржаўных падрадах і пастаўках** (З. З. № 28, арт. арт. 291—292), якое замяняе палажэньне за 27 ліпеня 1923 г. і шэраг пастаноў аб зьмене і дапаўненьні гэтага палажэньня. Новае палажэньне пашыраецца на ўсе дагаворы дзяржаўных падрадаў і паставак, апроч дагавораў, па якіх падрадчыкам або пастаўшчыком зьяўляецца дзяржаўны орган, дагавораў пастаўкі, па якіх тэрмін пастаўкі тавару не перавышае 2 тыдняў, і дагавораў падраду і пастаўкі на суму ня звыш 5000 руб. Дзяржаўныя установы і прадпрыемствы павінны здаваць свае падрады і пастаўкі на суму звыш 10.000 р. абавязкова з публічных таргоў, апрача выпадкаў, паказаных у законе. Саўнаркомы саюзных рэспублік маюць права падвышаць гэтую суму да 25.000 р. Заказчык можа выдаваць падрадчыку (пастаўшчыку) авансы ў разьмеры ня звыш 25 проц. цаны дагавору; акцыйным таварыствам і каапэрацыйным арганізацыям сума авансу можа быць павялічана. Падрадчык (пастаўшчык) павінен унесьці залог у разьмеры ня менш за 10 проц. цаны дагавору; акцыйныя таварыствы і каапэрацыйныя органы могуць быць звольнены ад залогу. За невыкананьне дагавору падраду спаганяецца няўстойка ў разьмеры 10 проц. цаны дагавору; за невыкананьне дагавору пастаўкі—у разьмеры 10 проц. нявыкананай часткі пастаўкі. За кожны дзень прасрочкі дагавору спаганяецца $^1/_{15}$ проц. цаны прасрочанай часткі дагавору. Прасрочка па дагавору падраду звыш 30 дзён, а па дагавору пастаўкі звыш 15 дзён лічыцца невыкананьнем дагавору. Да палажэньня даданы правілы аб публічных таргох на дзяржаўныя падрады і пастаўкі і аб парадку забесьпячэньня залогам выкананьня дагавораў.

2. Паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 1 чэрвеня 1927 г. **аб устанаўленьні дазвольнага парадку пабудовы, пераабсталяваньня і даабсталяваньня таварных млыноў** (З. З. № 33, арт. 341) пабудова таварных млыноў, пераабсталяваньне іх з звычайнага памолу на гатунковы і даабсталяваньне іх, вынікам якога зьяўляецца павялічэньне вытворчасьці, могуць рабіцца толькі на падставе дазволаў, якія даюцца мясцовымі органамі Народных Камісарыятаў гандлю саюзных рэспублік. Таварнымі лічацца млыны, прадугледжаныя пастановай ЦВК і СНК СССР за 20-VIII—1926 г. аб прамысловым падатку. Парадак выдачы дазволаў устанаўляецца Народнымі Камісарыятамі гандлю саюзных рэспублік у адпаведнасьці з агульнымі дырэктывамі НКГ СССР.

### *II. Праца.*

3. Паводле пастановы СНК СССР за 31 мая 1927 г. **аб выходной дапамозе, якая выдаецца пры звальненьні ў зьвязку з рацыяналізацыяй вытворчасьці** (З. З. № 32, арт. 335) рабочым, якія звальняюцца ў зьвязку з правядзеньнем мерапрыемстваў па палепшаньні тэхнікі і арганізацыі вытворчасьці, выхадная дапамога выдаецца, у залежнасьці ад раёну, у разьмеры ад 1½ да 3-месячнага заробку. Разьмеры дапамогі па паасобных раёнах і парадак выдачы гэтай дапамогі ўстанаўляецца Народным Камісарыятам Працы СССР па згодзе з ВСНГ СССР і УЦСПС.

4. Пастанова СНК СССР за 4 чэрвеня 1927 г. **аб заахвочваючай ўзнагародзе гандлёвых служачых дзяржаўных і каапэрацыйных прадпрыемстваў, а таксама акцыйных (паявых) таварystваў з пераважным удзелам дзяржаўнага і каапэрацыйнага капіталу** („Изв. ЦИК“ № 138 — 21/VI — 27 г.) дае права гандлёвым служачым памянёных прадпрыемстваў у парадку працоўных і калектыўных дагавораў атрымоўваць, апроч асноўнай узнагароды, заахвочваючую ўзнагароду, у прыватнасьці ў форме процантавага адлічэньня ад звароту прадпрыемства. Народныя Камісарыяты Працы і Гандлю СССР павінны выдаць інструкцыю аб ужываньні гэтага закону, па ўзгадненьні з ВСНГ СССР і УЦСПС. Новым законам скасоўваецца пастанова СНК СССР за 17 чэрвеня 1924 г. аб аплаце працы гандлёвых служачых дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый у форме процантавага адлічэньня ад чыстага прыбытку ад звароту прадпрыемстваў.

### *III. Фінансы і крэдыт.*

5. Паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 21 мая 1927 г. **аб павялічэньні колькасьці тыражоў і сумы выйгрышаў па дзяржаўнай 6 проц. выйгрышнай пазыцы 1922 г.** (З. З. № 31, арт. 310) колькасьць тыражоў па гэтай пазыцы на 1928—1930 г. г. павялічана з аднаго на два, а таксама на 1931 і 1932 г. устанаўляецца па два тыражы. Агульная сума, падлягаючая розыгрышу ў кожны з памянёных тыражоў, устанаўляецца ў разьмеры 800.000 рублёў.

6. Пастановай ЦВК і СНК СССР за 1 чэрвеня 1927 г. **аб выпуску дзяржаўнай унутранай 12 проц. пазыкі 1927 году** (З. З. № 31, арт. 318) агульная сума пазыкі вызначана ў 200 мільёнаў рублёў; аблігацыі выпушчаюцца па 50, 100, 500 і 5000 р. Тэрмін пазыкі 10 гадоў, ад 1 чэрвеня 1927 г. до 1 чэрвеня 1937 г. Па аблігацыях налічаецца 12 проц. гадовых. Тыражы пагашэньня робяцца два разы на год. Аблігацыі, прыбытак ад іх і зьдзелкі з аблігацыямі вызваляюцца ад усіх агульна-дзяржаўных і мясцовых падаткаў і збораў.

7. Пастановай ЦВК і СНК СССР за 1 чэрвеня 1927 г. **аб выпуску трэцяй дзяржаўнай 8 проц. унутранай пазыкі** (З. З. № 32, арт. 325) агульная сума пазыкі вызначана ў 200 мільёнаў рублёў; аблігацыі выпушчаюцца па 50, 100, 500 і 1000 р. Тэрмін пазыкі 10 гадоў, з 1 сакавіка 1927 г. па 1 сакавіка 1937 г. Па аблігацыях налічаецца 8 проц. гадавых. Выпускны курс аблігацый назначаецца па 96 р. за 100 р. Тыражы пагашэньня робяцца два разы на год. Аблігацыі, прыбытак ад іх і зьдзелкі з аблігацыямі вызваляюцца ад усіх агульна-дзяржаўных і мясцовых падаткаў і збораў.

8. Пастановай ЦВК і СНК СССР за 11 мая 1927 г. **аб зьмене арт. 36 Палажэньня аб дзяржаўных працоўных касах ашчаднасьці** („Изв. ЦИК“ № 129—9-VI—27 г.) укладчыкам кас даецца права паказваць касе ашчаднасьці ў парадку, устанаўляемым НКГС СССР, асоб, якім павінен быць выдан уклад у выпадку сьмерці ўкладчыка, незалежна ад таго, ці гэтыя асобы

ўваходзяць у круг законных насьледнікаў.

*ІУ. Транспарт.*

9. Пастановай СНК СССР за 24 мая 1927 г. зацьверджан новы **статут чыгунак СССР** (З. З. № 30, арт. 307—308). Гэтая пастанова скасоўвае статут чыгунак РСФСР 1922 г. і шэраг наступных законаў, датыкаючыхся чыгуначнага транспарту. Новы статут зьмяшчае наступныя палажэньні: аб перавозцы пасажыраў, багажу і грузаў; аб захаваньні грузаў на складах; аб камісійных дагаворах на пакупку і продаж грузаў, находзячыхся на чыгунках і аб выдачы пазык на грузы; аб парадку прыёму, адпраўкі і дастаўкі грузаў; аб парадку выдачы грузаў і аб выніках няўстрэбаваньня іх; аб граніцах адказнасьці чыгунак за перавозкі, аб ужываньні тарыфаў, аб пропуску тэрмінаў дастаўкі грузаў; аб падсуднасьці іскаў да чыгунак; аб пераўступцы праў па накладных; аб даўнасьці па прэтэнзіях да чыгунак. Падрабязны выклад новага закону і рознасьцяй у параўнаньні з статутам 1922 г. выходзіць за межы нашага агляду і павінен скласьці прадмет паасобнага артыкулу.

## Б. ПАСТАНОВЫ УРАДУ БССР.

*1. Дзяржаўнае будаўніцтва.*

1. Пастановай ЦВК і СНК за 14 мая 1927 г. **аб апублікаваньні і часе ўваходжаньня ў сілу законаў і загадаў Ураду БССР, а таксама загадаў народных камісарыятаў БССР** („Сав. Бел.“ № 125-5-VI—27 г.) скасоўваецца дэкрэт Прэзыдыуму ЦВК ССРБ за 24-І—1922 г. аб часе ўваходжаньня ў сілу дэкрэтаў і пастаноў Рабоча-Сялянскага Ураду ССРБ (З. З. 1922 г. № 1, арт. 2). Паводле новага закону, законы і загады Рабоча-Сялянскага Ураду публікуюцца ў газэце „Савецкая Беларусь“ і ў „Зборы Законаў“ і ўваходзяць у сілу па ўсёй тэрыторыі БССР праз 7 дзён пасьля апублікаваньня іх у адным з паказаных выданьняў. Загады народных камісарыятаў публікуюцца ў „Зборы Законаў“ і ўваходзяць у сілу праз 7 дзён пасьля іх апублікаваньня. Законы і загады, у якіх вызначан асобны тэрмін увядзеньня іх у дзейнасьць, уваходзяць у сілу з гэтага тэрміну. Законы і загады, у якіх сказана, што яны ўводзяцца ў дзеяньне па тэлеграфу ці радыётэлеграфу, уваходзяць у сілу з моманту атрыманьня тэлеграмы ці радыё-тэлеграмы акрвыканкомамі. Законы і загады, якія не належаць да апублікаваньня, уваходзяць у сілу з моманту атрыманьня іх установамі, якім яны пасылаюцца.

2. Пастановай ЦВК і СНК за 9 чэрвеня **аб разьмеркаваньні тэрыторыі Барысаўскай, Слуцкай, Калінінскай і Рэчыцкай акруг паміж іншымі акругамі БССР** („Сав. Беларусь“ № 129—10-VI—27 г.). Пералічаныя акругі ліквідаваны і тэрыторыя іх разьмеркавана наступным чынам: Барысаўскай акругі—паміж Менскай, Полацкай і Аршанскай; Слуцкай—паміж Бабруйскай і Менскай; Калінінскай паміж Магілёўскай і Аршанскай; Рэчыцкай —паміж Гомельскай і Мазырскай акругамі.

*ІІ. Грамадзянскае права.*

3. Паводле пастановы ЦВК і СНК за 14 мая 1927 г. **аб зьмене арт. 137 Г. К.** („Сав. Бел.“ № 125—5-VI—27 г.) абавязковаму натарыяльнаму пасьведчаньню падлягаюць дагаворы, якія заключаюцца дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі з прыватнымі асобамі і грамадзянскімі арганізацыямі, апроч некаторых катэгорый дагавораў, пералічаных у пастанове, у ліку якіх паказаны: дагаворы з прыватнымі асобамі на суму ня больш за 1000 р.; дагаворы дзяр-

жаўных устаноў і прадпрыемстваў з каапэрацыйнымі арганізацыямі, а таксама з акцыйнымі таварыствамі з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу; угоды па куплі-продажу за гатоўку; угоды, якія заключаюцца ў плянавым парадку паводле загадаў Савету Працы і Абароны, або Эканамічнай Нарады БССР; дагаворы камісіі і некаторыя іншыя. Рэгістрацыя на біржы ўгод куплі-продажу і дастаўкі прыраўніваецца да натарыяльнага пасьведчаньня.

4. Пастановай ЦВК і СНК за 21 мая 1927 г. **аб праве асоб, якія купілі муніцыпалізаваныя жылыя будынкі, патрабаваць адводу жылой плошчы ў гэтых будынках** („Сав. Бел.“ № 135—18-VI—27 г.) асобе, якая купіла муніцыпалізаваны будынак, даецца права патрабаваць у агульна-іскавым парадку жылой плошчы ў гэтым будынку для сябе і членаў свае сям'і. Наймальнікі, якія займаюць у даным будынку жылую плошчу, большую за ўстаноўленыя нормы, пасяляюцца, а калі немагчыма пацясьніцца, высяляюцца судом у наступнай чарзе: якія маюць непрацоўныя крыніцы даходу; асобы вольных прафэсій і саматужнікі, якія карыстаюцца выбарчым правам; асобы, крыніцай існаваньня якіх зьяўляецца заработная плата, або дапамога дзяржавы. Высяляемым асобам апошняй катэгорыі павінны давацца годная жылая плошча і транспартныя сродкі.

## *II. Праца.*

5. Пастановай ЦВК і СНК за 21 мая 1927 г. зацьверджаны **правілы аб вучнёўстве ў саматужнікаў, рамесьнікаў у прамысловай каапэрацыі і працоўных арцелях** („Сав. Белар.“ № 127—8-VI—27 г.). Гэтыя правілы выданы на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 15 кастрычніка аб асноўных палажэньнях аб вучнёўстве у саматужнікаў, рамесьнікаў, у прамысловай каапэрацыі і працоўных арцелях (гл. „Весьці НКЮ“ № 2—3) і часткова паўтараюць саюзны закон, дзеля чаго тут паказаны толькі тыя новыя нормы, якіх няма ў саюзным законе. Правілы пашыраюцца на вучняў тых саматужнікаў і рамесьнікаў, якія працуюць толькі самі альбо з дапамогай ня больш 2 наёмных рабочых, а таксама на вучняў у прамысловай каапэрацыі або ў працоўных арцелях, калі вучні не зьяўляюцца іх членамі. Вучнямі могуць быць асобы, якія дасягнулі 14 год, а ў сельскіх мясцовасьцях —13 год. Тэрмін вучнёўства ня можа быць большы за 4 гады і павінен быць скончаны не пазьней дасягненьня вучнём 20 год. Вучань павінен атрымоўваць плату на працягу 1-га паўгодзьдзя ня менш за 40 проц., а на працягу 2-га паўгодзьдзя ня менш за 75 проц. устаноўленага дзяржаўнага мінімуму заработнае платы. Вучань можа быть звольнены бяз выплаты выхадное дапамогі: калі ён сыстэматычна ўхіляецца ад работы, альбо ня выходзіць на работу бяз прычын, заслугоўваючых увагі, 3 дні падрад; калі ён хварэе больш за 2 месяцы без перарыву альбо 4 месяцы на працягу году з перарывамі; калі ён учыніць крымінальнае дзеяньне, або знаходзіцца ў ізаляцыі на працягу больш 2 месяцаў; у выпадку доўгае (больш 2 месяцаў) хваробы саматужніка альбо рамесьніка, калі будзе зачынена або спынена прадпрыемства; з прычыны сьмерці саматужніка або рамесьніка, калі яна выклікае зачыненьне або спыненьне прадпрыемства.

6. Пастановай ЦВК і СНК за 14 мая 1927 г. зацьверджаны правілы **аб умовах працы хатніх работніц і работнікаў, выконваючых работы асабовага абслугоўваньня наймальніка і яго сям'і** („Сав. Белар.“ № 128—9-VI—27 г.). На хатніх работніц і работнікаў пашыраюцца нормы кодэксу законаў аб працы з некаторымі зьменамі, дапаўненьнямі і выняткамі, паказанымі ў пастанове. Пры найманьні наймаль-

нік хатняе работніцы або работніка мае права патрабаваць пасьведчаньне аб стане іх здароўя, а таксама перыядычнага агляду іх здароўя. Хатнія работніцы і работнікі ня могуць быць маладзей 16 год, а ў выключных выпадках, са згоды бацькоў, або апякуна і інспэктара працы—не маладзей 14 год. Для хатніх работніц, або работнікаў, наймаемых для спэцыяльных мэт (няньні, сядзелкі), можа быць абмоўлена начная работа. Забараняецца аплата працы выключна ў натуральнай форме (памяшканьне, адзежа, яда і г. д.). За звышмерную і начную работу хатнія работнікі і работніцы атрымоўваюць дадатковую плату, якая ўстанаўляецца пры найме. Працоўны дагавор можа быць скасаваны ў кожны час, калі гэтага захоча адна з старон; пры звальненьні, па жаданьні наймальніка, ён павінен заплаціць выхадную дапамогу ў разьмеры 2 тыднёвага заработку альбо папярэдзіць за 2 тыдні аб звальненьні. Забараняецца звальняць хатніх работнікаў на працягу месяца ад таго дня, з якога яны страцілі працаздольнасьць. Спэцыяльная вопратка выдаецца ня менш нормы, устаноўленай Народным Камісарыятам Працы.

### *ІУ. Зямельнае права.*

7. Пастановай ЦВК і СНК за 14 мая 1927 г. **аб зьмене арт. 79 Зямельнага Кодэксу** („Сав. Бел.“ № 124—4-VI—27 г.) іскі членаў двара аб падзеле супольнае маемасьці двара (будынкаў, інвэнтару, ураджаю і інш.), а таксама падзеле зямлі прызнаны падсуднымі зямельным камісіям.

### *У. Фінансы.*

8. Пастановай ЦВК і СНК за 27 мая 1927 г. **аб мэтавым кватэрным падатку на патрэбы будаўніцтва рабочых жылішч** („Сав. Бел.“ № 145—30-VI—27 г.) скасавана пастанова за 31 сьнежня 1925 г. аб кватэрным падатку на патрэбы будаўніцтва рабочага жыльля (З. З 1925 г., № 47, арт. 369). Мясцовым саветам на аснове пастаноў акруговых зьездаў або пленумаў акрвыканкомаў даецца права ўстанаўляць у гарадох мэтавы кватэрны падатак, які бярэцца па велічыні займаемай жылой плошчы з усіх фізычных асоб, зьяўляючыхся платнікамі дзяржаўнага прыбытковага падатку па раскладу № 3 ставак падатку. З паступіўшага кватэрнага падатку 20 проц. адлічваецца ў рэспубліканскі фонд, а 80 проц. у мясцовыя фонды рабочага жілішчнага будаўніцтва. Паводле даданага да пастановы раскладу гранічных ставак кватэрнага падатку, гранічная велічыня месячнай стаўкі вызначаецца ў залежнасьці ад сумы гадавога даходу платніка; усе гарады БССР ў адносінах да велічыні ставак кватэрнага падатку падзяляюцца на 4 разрады. Гранічная велічыня месячнай стаўкі хістаецца ў межах ад 3 кап. да 2 р. 50 к. з 1-го квадратовага мэтру.

*С. Рахманін.*

# Хроніка.

## У Народным Камісарыяце Юстыцыі.

### Да барацьбы з лесапарубкамі.

У зьвязку з пытаньнем аб барацьбе з лесапарубкамі, якія зьнішчаюць лясное багацьце БССР, Народны Камісарыят Юстыцыі падаў у заканадаўчыя органы наступныя праэкты:

1. Праэкт зьмены рэдакцыі арт. 99 Крымінальнага Кодэксу.

2. Праэкт пастановы Эканамічнае Нарады аб ахове лясоў агульнадзяржаўнага і мясцовага значэньня ад крадзяжу і зьнішчэньня, і

3. Праэкт пастановы ЦВК і СНК аб парадку накладаньня адміністрацыйнага ўзысканьня акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі, гарадзкімі саветамі і міліцыяй.

Наш Крымінальны Кодэкс не прасьледуе лесапарубку, як самастойнае правапарушэньне, а арт. 99 прасьледуе парушэньне правіл аб ахове лясоў. Аднак, паколькі ў Савецкім Саюзе лясы зьяўляюцца дзяржаўнай маемасьцю, а ў БССР і асноўным багацьцем, лесапарубка павінна прасьледавацца як самастойнае правапарушэньне, незалежна ад правіл аб ахове лясоў. З другога боку па існуючых законах парушэньне правіл аб ахове лясоў у першы раз прасьледуецца штрафам у адміністрацыйным парадку, а карнявая каштоўнасьць, —страты дзяржавы—павінны спаганяцца ў судовым парадку, што толькі заграмаджае суды і зацягвае справу.

Выходзячы з гэтага, новы праэкт арт. 99 Крым. Код. выдзяляе самаўпраўную парубку ў лясох, як агульна-дзяржаўнага, гэтак і мясцовага значэньня ў самастойнае парушэньне і прызначае за гэта штраф у адміністрацыйным парадку ў двайным разьмеры ўстаноўленым Народным Камісарыятам Земляробства па лясьніцтвах прадажных цэн з сечанага лесу, з адабраньнем самаўпраўна зрубленага, а пры невыяўленьні яго, штраф у трайным разьмеры гэтых цэн. Гэткім чынам будзе спагняцца ў адміністрацыйным парадку і карнявая каштоўнасьць і штраф будзе накладацца ў разьмеры не па погляду адміністрацыйных установ, а ў цьвёрдых разьмерах.

Арт. 99-а прадугледае парушэньне выданых ва ўстаноўленым парадку пастаноў аб ахове лясоў, а таксамь правіл аб паляваньні і рыбнай лоўлі, выбарку без належнага дазволу і за парушэньнем устаноўленых правіл каменьня, пяску, гліны і цягне за сабой

штраф да 300 руб., або прымусовыя работы да 3 месяцаў, якія накладаюцца ў адміністрацыйным парадку.

Арт. 99-б прадугледжвае ўчыненьне паказаных у арт. 99 і 99-а дзеяньняў асобамі, якія ўжо адбылі прызначанае ў адміністрацыйным парадку пакараньне за парушэньне таго-ж артыкулу і за гэта прызначаецца пазбаўленьне волі на тэрмін да 1 году.

У існуючым арт. 99 ужываецца тэрмін „паўторнае“ і гэта выклікала спрэчкі, ці гэта тое самае, што „рэцыдыў“, ці не,—новая рэдакцыя адсоўвае ўсе гэтыя непаразуменьні.

У адпаведнасьці з арт. 99-б прадстаўлен праэкт пастановы Эканамічнай Нарады аб ахове лясоў. Гэты праэкт зьмяшчае выключна тое, што апроч лесапарубкі, якая прасьледуецца па арт. 99, забараняецца ўтвараць у лясох агульна-дзяржаўнага і мясцовага значэньня, як самаўпраўнае псаваньне маладняку, здыманьне кары, самаўпраўны поцераб і распашка лясных плошчаў, самаўпраўная касьба, пасьба жывёлы, зьбіраньне дрэўных пладоў, смалярства, сідка дёгцю, выкарыстаньне торфу, пастаноўка пчольнікаў, разьвядзеньне агню і г. д.

У частковасьці, паколькі лясы мясцовага значэньня прызначаюцца для абслугоўваньня сялянскае гаспадаркі і лесакарыстальнікі імі могуць карыстацца толькі ў натуры, а на шляхам продажу іх, як і продаж лесу, атрыманага з гэтых лясоў такім чынам садзейнічае іх зьнішчэньню, гэтай пастановай забараняецца продаж лесу лесакарыстальнікамі, атрыманага з лясоў мясцовага значэньня.

Існуючы парадак накладаньня адміністрацыйнай кары выявіў на практыцы шмат недахопаў. Па існуючаму палажэньню адміністрацыйнае пакараньне за парушэньні, паказаныя ў крымінальным кодэксе, прызначае акрвыканком і ён толькі можа даручыць гэта райвыканкому. Пастанова старшыні райвыканкому абавязкова ўносіцца на зацьверджаньне Прэзыдыуму. Справа павінна быць узьнята ў двухмесячны тэрмін, а пасьля ўзьняцьця пакараньне павінна быць прызначана ў парадку аднаго месяца. З гэтай прычыны большая колькасьць лесапарубак застаецца без пакараньня за пропускам гэтых тэрмінаў.

Апроч таго, парадак адміністрацыйнага ўзысканьня за парушэньне крымінальнага кодэксу ў існуючым законе прыстасован да палажэньня аб парадку выданьня абавязковых пастаноў і не прадугледжвае іншых выпадкаў, у якіх па закону накладаецца адміністрацыйнае ўзысканьне, а таксама не прадугледжвае накладаньня адміністрацыйнага узысканьня гарадзкімі саветамі.

З прычыны гэтага новы праэкт пастановы аб парадку накладаньня адміністрацыйнага ўзысканьня выдзяляецца з палажэньня аб парадку выданьня абавязковых пастаноў; зьмяшчае ў сабе ўсе выпадкі, дзе закон патрабуе накладаньня адміністрацыйнага пакараньня, выдзяляецца з палажэньня аб парадку выданьня абавязковых пастаноў; зьмяшчае ў сабе ўсе выпадкі, дзе закон патрабуе накладаньня адміністрацыйнага пакараньня, гэта значыць: а) за парушэньне абавязковых пастаноў; б) у выпадках, прадугледжаных крымінальным кодэксам і в) у выпадках, прадугледжаных іншымі законамі і пастановамі, паколькі апошнімі не прадугледжан спэцыяльна іншы парадак; гэта будуць: аб парадку прыцягненьня інспэктарамі працы наймальнікаў да адказнасьці за невыкананьне пастаноў, якія накіраваны да аховы жыцьця і здароўя працоўных, аб падачы зьвестак аб адчыніўшыхся спадчынах, арт. 7 запісу актаў грамадзянскага стану, аб наглядзе за захаваньнем этыкетных цэн і г. д.

Па гэтаму праэкту адміністрацыйнае пакараньне прызначаецца

у форме: а) папярэджаньня, б) штрафу да 300 р. і в) прымусовых работ да 3 месяцаў, калі іншы разьмер штрафу і прымусовых работ не прадугледжан у адпаведным законе.

Акрвыканкомы маюць права накладаць штраф да 300 р. і прымусовыя работы да 3 мес. гарадзкія саветы акруговых гарадоў—150 р. штрафу і $1^1/_2$ мес. прымусовых работ; райвыканкомы і гарсаветы неакруговых гарадоў штраф да 50 р. і прымусовыя работы да 2 месяцаў.

Адміністрацыйнае пакараньне ў ва ўсіх выпадках накладаецца старшынёй райвыканкому, а ў гарадох старшынёй прэзыдыуму гарсавету ў межах паказанай вышэй кампэтэнцыі; калі-ж прэзыдыум, па прадстаўленьню старшыні, прызнае неабходным павялічыць меру пакараньня, або калі гэта большая мера вынікае з адпаведнага закону, пастанова падаецца на зацьверджаньне прэзыдыуму акрвыканкому.

Апроч таго, за парушэньне ў гарадох абавязковых пастаноў, якія ўстанаўляюць правілы пажарнае бясьпечнасьці і парадку ў грамадзкіх мясцох і правілы руху на вуліцах, пакараньне накладаецца міліцыяй на месцы—у акруговых гарадох да 5 р., а ў неакруговых да 3 руб., калі-ж парушыцель адмаўляецца ўнесьці штраф, справа накіроўваецца ў агульным парадку.

Адміністрацыйнае пакараньне ў ва ўсіх выпадках прызначаецца ў трохмесячны тэрмін з дню парушэньня, і гэты тэрмін не падзяляецца на іншыя часткі, апроч таго, праэкт прадугледжвае, што ў выпадках пропуску гэтага тэрміну для назначэньня пакараньня за лесапарубкі, а таксама за парушэньне будаўнічых і санітарных правіл, калі за гэтыя парушэньні прызначаецца адміністрацыйнае пакараньне, хоць адміністрацыйнае ўзысканьне не прызначаецца, але ў адміністрацыйным парадку спаганяецца карнявая каштоўнасьць па прадажных таксах НКЗ, а таксама зносяцца і зачыняюцца пабудовы, якія пабудованы з парушэньнем будаўнічых і санітарных правіл.

Скаргі на пастановы аб адміністрацыйным пакараньні падаюцца ў прэзыдыум акрвыканкомаў.

Такім чынам праэкт спрашчае сыстэму і адміністрацыйнае пакараньне накладаецца незалежна ад таго, хто выдаў пастанову, ніжэйшымі органамі—гарсаветамі і райвыканкомамі, за акрвыканкомамі-ж пакідаецца зацьверджаньне вышэйшых разьмераў штрафу і прымусовых работ і разгляд скаргаў, і ім-жа на агульных падставах належыць агульнае кіраўніцтва і нагляд.

---

## Мерапрыемствы Менскага акруговага суду па разгрузцы народных судоў ад неразгледжаных спраў.

Менскім акруговым судом распрацован і разаслан на месцы ліст народным судзьдзям Менскай судовай акругі аб прыняцьці ўсіх мер да разгрузкі народных судоў ад неразгледжаных спраў. Адзначаючы павялічэньне астач неразгледжаных спраў па паасобных народных судох і тую абставіну, што гэта загрузка становіцца сыстэматычнай і пагражае скапленьнем у паасобных вучастках да канца году звыш 1000 неразгледжаных спраў, а таксама, што разгляд спраў і ўжываньне судом рэпрэсій (асабліва за дробныя злачынствы) цераз год-паўтара пасьля ўчыненьня злачынства—ужо недасягае галоўнае сваёй мэты—працоўнага ўплыву на мясцовае на-

сельніцтва, акругові суд рэкамэндуе народным судзьдзям павялічыць колькасьць дзён судовых пасяджэньняў у месяц, а таксама і павялічыць колькасьць і прызначаемых да разгляду на адзін дзень спраў.

## Новы парадак прызначэньня разгляду спраў ў касацыйных інстанцыях акруговага суду.

Аршанскім і Бабруйскім акруговымі судамі распрацаваны і разасланы на месцы народным судзьдзям цыркуляры, па якіх уводзіцца новы парадак прызначэньня разгляду спраў у касацыйных інстанцыях акруговых судоў. Згодна гэтых цыркуляраў і дададзеных да іх табліц--плянаў, якія паказваюць на які месяц, лік і колькасьць спраў на кожны вучастак прызначана да слуханьня ў касацыйных інстанцыях, прызначэньне крымінальных спраў у 2 інстанцыі акрсудоў—у Аршанскай акрузе з 1 красавіка, а Бабруйскай і Слуцкай з 1 ліпеня, вытвараецца самім нарсудзьдзёй непасрэдна на месцы на кожны паказаны ў таблі дзень; зацікаўленай старане тутжа ўручаецца позва з паказаньнем у ёй тэрміну прызначэньня справы да слуханьня ў акрсудзе. Калі касацыйная скарга паступіла ў нарсуд поштай, дык позва пасылаецца нарсудом зацікаўленай старане таксама поштай, а калі падаюцца прыватныя скаргі на пастанову суду, дык позвы зусім не пасылаюцца, але-ж суд павінен назначыць справу да слуханьня ў тым-жа парадку, як і па касацыйнай скарзе. Пры назначэньні спраў да слуханьня, суд павінен сачыць за тым, каб назначаная справа магла быць даслана ў акрсуд не пазьней чым за тыдзень да разгляду яе акрсудом, арыштанскія справы не пазьней чым за 5 дзён.

Пры распрацоўцы плянаў - табліц і ўстаноўкі нормы прызначэньня спраў на дзень, акруговыя суды выходзілі з сярэдняга ліку месячнага паступленьня аскарджаных спраў па кожнаму вучастку, а што датычыцца арыштанскіх спраў, альбо спраў, якія маюць грамадзянскі, альбо ўдарны характар, дык яны прызначаюцца да слуханьня пазачаргова незалежна ад ліку ўжо прызначаных спраў на той ці іншы лік, але-ж ня больш двох спраў на дзень касацыйнага пасяджэньня.

## Аб абслугоўваньні акрсудамі далучаных да іх нарсудоў ліквідаваных акруг.

У зьвязку з пастановай ЦВК і СНК аб ліквідаваньні з 15 чэрвеня Барысаўскай, Калінінскай Рэчыцкай і Слуцкай акруг, НКЮ аддана акруговым судом распараджэньне аб парадку абслугоўваньня імі далучаных да іх нарсудоў расфарміраваных акруг, згодна якому, касацыйныя справы, якія паступаюць у акрсуды да 1 ліпеня г. г. з нарсудоў ліквідаваных акруг, павінны быць разгледжаны тымі акрсудамі, да якіх належалі памянёныя нарсуды да часу ліквідацыі акруг. Пачынаючы з 1 ліпеня г. г. касацыйныя скаргі нарсудоў павінны прымацца тымі акрсудамі, у тэрыторыю судовых акруг якіх уваходзяць гэтыя нарсуды. Гэты парадак прыманьня акрсудамі касацыйных скарг не датычыцца Калінінскай акругі, скаргі па якой павінны разглядацца Аршанскім акрсудом на падставе паасобна дадзеных яму паказаньняў.

## Аб парадку распаўсюджаньня цыркуляраў.

З 25 чэрвеня г. г. спыняецца рассылка цыркуляраў, выдаваемых Народным Камісарыятам Юстыцыі і з гэтага тэрміну ўсе цыркуляры, за выключэньнем тэрміновых, будуць зьмяшчацца ў „Бюлетэн СНК“ і часопісі „Весьці НКЮ“.

## В ПРАВОВОЙ СЕКЦИИ ИНСТИТУТА БЕЛОРУССКОЙ КУЛЬТУРЫ.

(ДОКЛАД ТОВ. ГАВЗЕ „О ЮРИДИЧЕСКОЙ ПРИРОДЕ СОБСТВЕННОСТИ В СОВЕТСКОМ СОЮЗЕ“).

На заседании правовой секции Инбелкульта 4-го июля с. г. тов. Гавзе сделал доклад на тему „о юридической природе собственности в Советском Союзе“.

Отметив, что проблема собственности является одной из крупнейших в Советском Союзе, что борьба между Союзом ССР и капиталистическими государствами является в сущности борьбой между советской и буржуазной системами собственности, докладчик указывает, что он затронет в своем докладе следующие три вопроса: 1) о юридической природе собственности, как ее понимают буржуазные теоретики права и как она выражена в законодательстве; 2) о юридической природе собственности в Советском Союзе и 3) о государственной собственности, поскольку ее удельный вес в советской системе собственности чрезвычайно велик.

Переходя к первому вопросу, докладчик приводит ряд определений права собственности, которые дали ученые цивилисты классической школы, Р. Зом, Барон, Виндшейд, Дернбург, Дювернуа и др. В то время, как одни из них, напр. Виндшейд, признают, что собственность не ограничена ничем, другие (большинство), определяя собственность, как „полное и исключительное“ или „неограниченное“ или „всестороннее“ господство над телесной вещью в то-же время добавляют, что оно (господство) может быть ограничено, но этим существо права собственности не нарушается. Оно в таких случаях подавлено в своих основаниях, но не уничтожено: сила его во всей полноте выступает наружу, коль скоро отпадают по какой либе причине правомочия, стеснявшие его. Эта „эластичность“ собственности и отличает по мнению этих ученых право собственности от всех других вещных прав.

Такое понимание права собственности не могло однако удовлетворить ученых нашего времени, наблюдающих за фактическим осуществлением права собственности в современной экономической действительности. Известный критик проекта Германского Гражданского Уложения проф. Менгер, французский ученый проф. Дюги и ряд других выступили против ученых классической школы, указывая на ограничивающую роль государства при определении прав собственника на то, что право собственности является социальной функциею и т. п. Наконец, наблюдая хозяйственную жизнь Германии и других европейских государств во время и после войны, немецкий ученый проф. Гедеман пришел к убеждению, что публично-правовые воздействия вовлекаются в субстанцию собственности. От них уже нельзя отделаться просто как от внешних побочных влияний, соприкасающихся с собственностью. Далее, развивая свою мысль, Гедеман допускает возможность раз-

двоения права собственности между собственником и другой „высшей силой“, например, государством. Один факт существования многих последователей ученый Дюги и Гедемана убеждает в том, что в жизни, а тем самым и в законодательстве, произошли, очевидно, такие изменения, которые существенно меняют характер собственности.

Обратившись к древнеримскому законодательству, крецепировавшему ряд положений древнеримского законодательства, Кодексу Наполеона и наконец к кодексам Нового Времени, Германскому и Швейцарскому Гражданским Уложениям, докладчик указывает на то, как постепенно ограничивается абсолютный характер права собственности. Однако, не нормы гражданских кодексов, а ряд норм публичного права, как налоговое законодательство, закон о наследственных пошлинах, о принудительном выкупе земли и наконец, законодательство военного времени является по мнению докладчика, теми положительными нормами, которые действительно представляют собою ограничения права собственности.

Полемизируя в дальнешем с Дюги и с Гедеманом, докладчик доказывает неосновательность их учений.

Теория Дюги страдает первородным грехом—признанием „солидаризма“, которого он считает основным принципом хозяйственной и индивидуальной жизни современного общества. В современном классовом обществе, не солидаризм, а антогонизм классовых интересов, является основным принципом его деятельности. Вследствие этого понятия „коллективная польза“, „социальная функция“, „свобода личности“ и т. п. являются очень спорными; каждый класс понимает их по своему и потому они являются абсолютно неясными и неопределенными.

Возникшая в послевоенный период теория Гедемана о раздвоении права собственности также является несостоятельной. Она представляет собой лишь отражение политических идеалов либеральной части буржуазного общества, желающего совместить принцип частной собственности с прекрасными идеями будущего социалистического строя. Попытка буржуазных ученых разрешить запутанную проблему права собственности и его ограничений в капиталистическом периоде, является тщетной и безнадежной. Они не могут найти критерия для установления границы между правом частной собственности и его ограничениями, ибо все эти ограничения все же не должны противоречить и не противоречат в буржуазном законодательстве, основным—экономическому и социальному принципам собственности—извлечению прибыли и антагонизму индивидуальных интересов.

Учение о праве собственности было более всего логично и стройно разработано именно в древнеримские времена, благодаря господствовавшему тогда натуральному хозяйству, благодаря тому, что добывание определенных благ и средств к существованию обусловливалось именно обладанием данной вещью, приложением личного труда к данной вещи и устранением воздействия других лиц на эту вещь,—благодаря всем этим обстоятельствам и развилось учение о праве собственности, как о праве абсолютного господства над вещью. Экономическое развитие создало новые, часто противоположные древнему натуральному хозяйству способы добывания благ.

Диалектику развития общества не осилили теоретики права, как те, которые укрылись от житейских бурь в стройном здании римского частного права, так и те, которые, оставаясь на почве насквозь проникнутого противоречиями капиталистического строя, пытались

создать новую теорию права собственности, усиленно критикуя при этом представителей классического учения.

Совершенно иным должен быть научный подход к вопросу о выяснении понятия права собственности на основе законодательства советских республик. Государственная власть советских республик ставит своей целью уничтожение частной собственности. Однако в силу определенных социально-экономических причин та же власть предоставляет право собственности в определенных пределах юридическим и физическим лицам, для того, чтобы они, владея вещами на праве собственности, давали определенный, социально-полезный эффект в направлении развития производительных сил страны для построения социалистического хозяйства. Следовательно, советское законодательство в части допущения права частной собственности и определения его об'ема имеет определенные границы: в течение переходного к социализму периода право частной собственности будет существовать лишь в таком об'еме, в каком оно будет об'ективно (вне зависимости от воли собственника) содействовать, во-первых, росту народного хозяйства вообще и, во-вторых, развитию его в направлении построения социалистического хозяйства. Несомненно, однако, что собственник при осуществлении своего права собственности не руководствуется этими моментами. Его цель—получить в результате своей деятельности индивидуально полезный эффект, приобретение определенных благ лично для себя, не интересуясь тем, каков будет социальный эффект его деятельности. Может случиться, что осуществление права собственности собственником вступит в противоречие с интересами советского государства в целом. Это предусмотрено советским законодателем. Ст. 1-ая Г. К. всех советских республик вводит положение о защите гражданского права лишь поскольку оно осуществляется в соответствии со своим социально хозяйственным назначением, устанавливая тем самым контроль государства над использованием гражданских прав, в частности права собственности. Если в Германии собственник калийного рудника, по словам профессора Гедемана, может отказаться от производства и тогда от всей его собственности остается только рента, то в Советском Союзе у собственника дома (о калийном руднике и говорить не приходится) при ненадлежащем использовании своей собственности остается в результате копия постановления Исполкома об из'ятии его собственности (лит. „Б“ ст. 4 постановления ЦИК и СНК БССР, об условиях национализации строений от 25 мая 1924 г.—Собр. Узак. БССР за 1924 г. 17-144). Таким образом, границы права собственности устанавливаются с одной стороны законодательством, а с другой—социально-хозяйственным назначением данной вещи. Использование права собственности вне этих пределов влечет неминуемо лишение права собственности. Наоборот, при использовании своего права в соответствии с законом он получает от государства через выраженные в законодательстве правовые нормы ряд правомочий, которые в совокупности определяют его отношение к обществу по поводу данной вещи, как отношение собственника вещи к другим лицам—несобственникам.

С точки зрения этих правомочий, право собственности есть наиболее полное из вещных прав, право на вещь, предоставляемое государственной властью в об'еме, определяемом законодательством и социально-хозяйственным назначением вещи.

Определяя об'ем права собственности в отношении об'ектов собственности, законодательство в то же время устанавливает круг об-

ектов, не могущих быть предметом частной собственности и являющихся собственностью государства. Раз государство, являясь собственником, в то же время определяет об'ем права собственности, то следует, очевидно, придти к выводу, что право собственности государства есть право безусловного, абсолютного господства над вещью. Государство может отдать об'ект государственной собственности в аренду или продать в собственность, дать в пользование на любых условиях и из'ять из пользования в любой момент и т. п. Рассуждая абстрактно о правах государства, как политического организма, мы можем с этим согласиться. Однако, наше мнение было бы глубоко неправильным. Государство, как хозяйствующий суб'ект, связано строгими нормами закона, которые устанавливают точно и определенно правомочия государства - собственника. С другой стороны, поскольку осуществление государством своего права собственности имеет своей целью создание определенного социально полезного эффекта, деятельность государства - собственника данной вещи всегда соответствует социально-хозяйственному назначению вещи.

Следовательно, даваемое нами определение права собственности применимо и к праву собственности государства после исключения из этого определения слов „и социально-хозяйственным назначением вещи".

В последней части своего доклада, тов. Гавзе остановился на наиболее характерных отличиях государственной собственности, разобрав вопросы об об'ектах государственной собственности, способах приобретения государством собственности, способах прекращения права собственности государства и о презумпции права собственности государства. В результате анализа всех указанных моментов докладчик пришел к убеждению о том, что право собственности государства шире как по об'ему, так и по характеру отдельных правомочий, чем право частной собственности. Доклад вызвал ряд вопросов и прений, в которых участвовали т. т. Ватаци, проф. Гредингер и Чернявский.

Тов. Ватаци ставит под сомнение вопрос о том, нужно-ли искать определение права собственности, указывая, что очень многое из того, что у нас признается правом собственности, вовсе не является таковым. Например, право частных лиц на строения не есть право частной собственности, ибо раз государство может забрать, значит нет права собственности, Соглашаясь с докладчиком, что право собственности государства шире права частной собственности, т. Ватаци об'ясняет это территориальным верховенством государства.

Проф. Гредингер, признавая безусловную научную ценность исследования докладчика, критикует даваемое докладчиком определение, указывая на то, что в нем имеется тавталогия. Вместе с тем он находит, что приведенная докладчиком статья 903 Германского Гражданского Уложения содержит в себе тот же принцип, на котором базируется определение докладчика. Проф. Гредингер указывает далее на то, что докладчик не затронул весьма оригинальную теорию Петражицкого, а также, что в докладе должна была быть освещена юридическая природа треста, как наиболее крупного использователя государственной собственности.

Тов. Чернявский в основном соглашается с докладчиком.

Тов. Гавзе, отвечая на возражения оппонентов указал, что именно сейчас, когда борются две системы собственности, важно, чтобы и наука права приняла участие в борьбе за новый общественный строй созданием отточенных, ясных правовых формулировок и норм и марксистски выдержанных теорий

о важнейших институтах права. В частности, из высказанных т. Ватаци нескольких отдельных мыслей видать, что он стоит на точке зрения классического учения о праве собственности. Но тогда он должен отрицать существование права собственности во многих случаях и в буржуазных государствах, так как, наприм., высокие наследственные пошлины и налог на прирост земельной ценности, это фактически тоже из'ятие государством имущества у частных лиц. Если же согласиться с пониманием права собственности докладчиком, тогда право собственности на строения не будет подлежать никакому сомнению; не придется также искать об'яснений факту наличия больших правомочий у собственника государства. Докладчик полемизирует с проф. Гредингером по поводу определения права собственности, а также указывает, что вопроса о трестах он не касался, поскольку тресту и другим суб'ектам пользования госимуществом будет посвящен особый доклад.



# Частка афіцыйная.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ АТРЫМАНЬНІ ЗЬВЕСТАК ЗАМЕЖНЫМІ МУНІЦЫПАЛЬНЫМІ ЎСТАНОВАМІ З ЎСТНОЎ СССР.

*Усім Акрпракурорам і Старшыням Акрсудоў.*

За апошні час маюць месца выпадкі, калі замежныя муніцыпальныя ўстановы зварочваюцца да ўстаноў БССР аб высылцы ім тых альбо іншых зьвестак.

Гэтым прапануецца ніякім чынам не адказваць непасрэдна на гэтыя запытаньні, а абавязкова кожны раз накіроўваць гэтыя запытаньні ў НКЮ, які і будзе ўзгадняць гэтыя запытаньні з Упаўнаважаным НКЗС пры Урадзе БССР.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і
Пракурора Рэспублікі **С. Гохман**.

За Пам. Пракурора Рэспублікі **Кіпарысаў**.

5 чэрвеня 1927 г.
№ 56.

## Усім акруговым судом і народным судзьдзям, якія выконваюць натарыяльныя дзеяньні.

*ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!*

Згодна § 193 інструкцыі НКЮ, у мясцох, у якіх натарыяльныя канторы не ўстаноўлены, народныя судзьдзі выпаўняюць наступныя натарыяльныя дзеяньні:

1. Натарыяльнае пасьведчаньне ўсякага роду даверанасьцяй;
2. Учыненьне прадугледжаных законам пратэстаў вэксалёў;
3. Пасьведчане вернасьці копій дакумэнтаў і выпісак з кніг і дакумэнтаў;
4. Пасьведчаньне сапраўднасьці подпісаў на дакумэнтах, акрамя ўгод і даверанасьцяй;
5. Пасьведчаньне акалічнасьцяй і фактаў, якія могуць мець юрыдычнае значэньне, у якіх судзьдзя асабіста можа непасрэдна пераканацца і для пасьведчаньня якіх закон не ўстанаўляе іншага парадку (пасьведчаньне часу прад'яўленьня дакумэнтаў, пасьведчаньне нараджэньня асобы ў азначаным месцы і г.д);
6. Прыем заяў фізычных і юрыдычных асоб для перадачы іх іншым асобам, а таксама выдачы пасьведчаньняў па поваду пераданых заяў;
7. Хаваньне дакумэнтаў;
8. Пераводы з адной мовы на іншыя і пасьведчаньне правільнасьці перакладаў;

9. Прыём у дэпазыт для перадачы па прыналежнасьці плацяжоў па прад'яўленых да пратэсту вэксалёх;

10. Выпаўненьне розных тэхнічных дзеяньняў, якія зьвязаны з натарыяльнымі дзеяньнямі.

Пры выпаўненьні натарыяльных дзеяньняў нарсудзьдзі кіруюцца Палажэньнем аб Дзяржаўным Натарыяце інструкцыяй НКЮ, таксама, якія ўстаноўлены для натарыяльных кантор і ўсімі распараджэньнямі НКЮ па натарыяту. З паступаючых з месц матар'ялаў відаць, што некаторыя нарсудзьдзі пры выпаўненьні натарыяльных дзеяньняў не прытрымліваюцца прападаных для гэтых дзеяньняў Палажэньнем аб Дзяржаўным Натарыяце правіл, а таксама інструкцый і абежнікаў НКЮ.

Дзякуючы чаму, народныя судзьдзі няправільна прымаюць для натарыяльнага пасьведчаньня ўгоды і дагаворы, а таксама няправільна сьведчаць подпісы на такіх угодах і дагаворах.

З усіх прыкмечаных дэфэктаў асабліва прыходзіцца спыніцца на некаторых больш характэрных парушэньнях, якія дапушчаны народнымі судзьдзямі пры выпаўненьні імі натарыяльных дзеяньняў.

1. Народныя судзьдзі натарыяльна пасьвядчаюць дагаворы куплі-продажу жылых будынкаў. Гэткія дзеяньні судоў няправільны, бо ўсе без выключэньня угоды, дагаворы і акты выняты з кампэтэнцыі нарсудзьдзяў і належаць пасьведчаньню толькі ў натарыяльных канторах. Гэткага роду ўгоды, дагаворы і акты, як няправільна пасьведчаныя судзьдзямі, паводле арт. 29 Грам. Код., лічацца несапраўднымі.

2. Дагаворы аб адчужэньні будынкаў, ня гледзячы на абавязковасьць учыненьня іх у натарыяльным парадку, народныя судзьдзі няправільна ўчыняюць іх у форме простых угод з пасьведчаньнем на іх подпісаў старон. Гэтыя дзеяньні судзьдзяў цалкам парушаюць арт. 185 Гр. Код. і супярэчаць § 37 інструкцыі НКЮ.

3. Часьцей усяго дапушчаюцца няправільнасьці пры натарыяльным пасьведчаньні даверанасьцяй, а таксама пры спагнаньнях збораў за натарыяльныя дзеяньні. Народныя судзьдзі няправільна абмяжоўваюцца толькі надпісам на даверанасьці або арыгінале подпісу, не паказваючы спосабу, якім яны пасьвядчаліся ў самалічнасьці падпісаўшага даверанасьць. Неабходна паказваць спосаб пасьведчаньня ў самалічнасьці і дакумэнты, якія меліся на ўвазе пры натарыяльным пасьведчаньні даверанасьці (арт. 27 Пал. аб Дзярж. Натар.).

Калі самалічнасьць сьведчыцца двумя грамадзянамі, належыць гэта таксама адзначыць у натарыяльным пасьведчаньні даверанасьці (арт. 16 Палаж. аб Дзярж. Натар.).

Пры натарыяльным пасьведчаньні даверанасьцяй ад імя юрыдычнай асобы неабходна праверыць правамоцнасьць існаваньня юрыдычнай асобы і сапраўднасьць паўнамоцтваў яго прадстаўніка. Адначасова з гэтым належыць устанавіць, ці мае акцыйнае таварыства, каапэратыў і г. д., ад імя якіх учыняецца даверанасьць, зацьверджаны статут, палажэньне і г. д.

Калі прадстаўнікамі зьяўляюцца службовыя асобы ўстановы, ад імя якіх учыняецца даверанасьць, павінна быць прадстаўлена пасьведчаньне аб знаходжэньні іх у пасадзе. Усе гэтыя дакумэнты павінны быць пералічаны ў натарыяльным пасьведчаньні надпісу.

Пры натарыяльным пасьведчаньні даверанасьцяй трэба кіравацца гэрбавым статутам, таб. увага 1-я, § 19, п. 1, літ. „а“, „б“, „в“, „г“, дадатак 1 § 13 і таб. § 19, арт. 1 і пунктамі „а“, „б“, „в“, „г“, „д“, „е“ таксы аплаты натарыяльных дзеяньняў (Бюл. СНК № 1—1926).

Зборы, якія датычацца натарыяльнага пасьведчаньня даверанасьці, наступныя: натарыяльны, мясцовыя і гэрбавы збор. Згодна арт. 20 таксы аплаты натарыяльных дзеяньняў, за натарыяльнае пасьведчаньне даверанасьці спагняецца: а) на вядзеньне спраў, якія знаходзяцца ў судовых і адміністрацыйных органах—1 р. натарыяльнага, 1 р. мясцовага і 1 р. гэрбавага збору, а ўсяго 3 р. з даверанасьці; б) на кіраваньне маемасьцю. на вядзеньне гандлю і г. д. спаганяецца 5 р. натарыялрнага, 5 р. мясцовага і 1 р. 65 к. гэрбавага збору, а ўсяго 11 р. 65 к. з даверанасьці; в) на паасобныя дзеяньні гэткага-ж роду, напрыклад, на заключэньне ўмовы на продаж дому, арэнды, падрады і г. д. спаганяецца—натарыяльнага 3 р., мясцовага 3 р. і гэрбовага 1 р., а ўсяго 7 р. з даверанасьці і г. д.

Подпіс асобы, якая выдала даверанасьць ня сьведчыцца, а натарыяльна пасьвядчаецца самая даверанасьць у ўстаноўленым парадку і па форме, якая разаслана ўсім судзьдзям. У гэтай форме слова „засьведчана“, трэба замяніць „натарыяльна пасьведчана“.

Незахаваньне правіла аб даданьні даверанасьці натарыяльна пасьведчанай формы цягне за сабой несапраўднасьць даверанасьці, а як вынік гэтага—прызнаньне несапраўднасьці ўсякай умовы, якая ўчынена на падставе гэтай даверанасьці.

Усе гэтыя дэфэкты паказваюць на няўважлівую адносіну народных судзьдзяў пры выкананьні імі натарыяльных дзеяньняў.

Паведамляючы Вас аб вышэйпаказаных парушэньнях, Народны Камісарыят Юстыцыі папярэджвае, што ў выпадку далейшага дапушчэньня гэтага роду парушэньняў, на вінаватых нарсудзьдзяў будзе накладацца адпаведнае пакараньне.

З таварыскім прывітаньнем.

Нам. Нар. Кам. Юст. **С. Эднэрал.**

Заг. Натар. п/аддзелу **Малёнак.**

7 ліпеня 1927 г.
№ 12.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Найвышэйшага Суду БССР

### АБ ПРАВЕ ЎПАЎНАВАЖАНЫХ САЮЗАЎ ВЫСТУПАЦЬ У СУДЗЕ.

*Усім Акруговым Судом, Нарсудом і Працсэсіям.*

У растлумачэньне п. „Б“ арт. 16 Грам. Прац. Кодэксу НКЮ і Найвышэйшы Суд паведамляюць:

1. Упаўнаважаныя прафэсіянальных саюзаў ня толькі маюць права выступаць у судзе ў якасьці абаронцы інтарэсаў таго ці іншага члена данага прафсаюзу, але і маюць права прад'яўляць іскі, выцякаючыя з працоўных адносін за членаў гэтых прафсаюзаў, як на аснове калектыўнай умовы, так і бяз гэтага.

2. Паказаныя прадстаўнікі павінны дастаўляць толькі адпаведныя паўнамоцтвы ад падлягаючых прафсаюзаў.

Прад'яўляць ім трэбаваньне аб прадстаўленьні даверанасьці ад імя асоб, у карысьць якіх прад'яўлен іск, суды не павінны.

3. Гэтыя прадстаўнікі саюзаў маюць права ўчыненьня ўсіх працэсуальных дзеяньняў, акрамя тых, на ўчыненьне якіх у сілу арт. 18 Г. П. К. неабходна мець спэцыяльную даверанасьць. Гэтыя дзеяньні прадстаўнік саюзу можа ўчыняць у парадку арт. 17 Грам. Прац. Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі **С. Гохман.**

Старшыня Найвышэйшага Суду БССР **А. Варашылаў.**

Пракурор па Працоўных Справах **Глезераў.**

13 ліпеня 1927 г.
№ 62.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ ТЭРМІНОВЫМ РАЗГЛЯДЗЕ СПРАЎ ПА ІСКАХ ТРОЙКІ ПРЫ ВСНГ СССР ПА НАВУЧАНЬНІ КАЧАГАРАЎ ПАРАВЫХ КАТЛОЎ.

*Усім Акруговым і Народным Судом.*

У сучасны момант па БССР праводзіцца абавязковае навучаньне качагараў паравых катлоў усіх прамысловых прадпрыемстваў—дзяржаўных, каапэрацыйных і прыватных.

Гэта навучаньне праводзіцца на падставе пастаноў СПА (СТО) СССР за 13-IV—1923 г. (прат. № 401) і за 3-VII—1925 г. (прат. № 159 і 12-І, апублікаваны у „Известиях НКТ СССР“ за 20-V—1925 г. за № 18), пры чым на падставе і ў разьвіцьцё апошняе пастановы былі выданы пастановы НКП СССР за 11-V—1925 г. за № 109—343 і інструкцыя ВСНГ СССР і НКП СССР за 7-VII—1926 г. за № 147—355, апублікаваная ў „Известиях НКТ СССР“ за 30 ліпеня 1926 г. за № 27—28.

Паводле гэтага заканадаўства правядзеньне навучаньня качагараў ускладзена на „Тройку па навучаньні качагараў“, існуючую пры Галоўным Эканамічным Кіраўніцтве ВСНГ СССР, пры чым усе выдаткі гэтае „Тройкі“, зьвязаныя з навучаньнем качагараў паравых катлоў, павінны аплачвацца ёй уласьнікамі паравых катлоў у разьмеры і парадку, вызначаных „Тройкай“ і зацьверджаных ВСНГ СССР па ўзгадненьні з НКФ СССР, НКП СССР і НК Шляхаў Зносін.

Прымаючы пад увагу, што правядзеньне навучаньня качагараў мае вельмі важнае значэньне для прамысловых прадпрыемстваў і што вынікі яго будуць у значнай меры залежаць ад сродкаў, якія будзе мець „Тройка“, трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на тэрміновы разгляд спраў паісках памянёнай „Тройкі“ да ўласьнікаў паравых катлоў, у мэтах тэрміновага спагнаньня з іх выдаткаў, зьвязаных з навучаньнем качагараў.

З прычыны вышэйпамянёнага, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе наступнае:

Усе справы паісках „Тройкі пры ВСНГ СССР па навучаньні качагараў паравых катлоў“ прызначаць да слуханьня ў парадку п. 1-га, літ „б“, абежніку НКЮ за № 94 за 18 сьнежня 1925 г., як справы дзяржаўных устаноў, маючыя чарговы характар.

Народны Камісар Юстыцыі
і Пракурор Рэспублікі **М. Сэгаль**.

Ст. Інспэктар НКЮ **Барышаў**.

12 ліпеня 1927 г.
№ 64.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ СКЛАДЗЕ РАЁННЫХ ЗЯМЕЛЬНЫХ КАМІСІЙ.

*Усім Акруговым Пракурорам.*

Па маючыхся ў Пракуратуры Рэспублікі вестках, часта маюць месца выпадкі, калі раённыя зямельныя камісіі разглядаюць справы ў незаконным складзе, кааптуючы ў склад камісіі асоб, не зацьверджаных Акрвыканкомам.

Прымаючы пад увагу, што такое становішча ня можа ўперад быць дапушчана,—прапануецца Вам з свайго боку мець сталы нагляд за тым, каб гэтага ўперад ня было і ў выпадках дапушчэньня гэтага з боку старшынь Райземкамісій кожны раз прыцягваць вінаватых да дысцыплінарнай адказнасьці па 1 ч. 106 арт. К. К. з санкцыяй па 2 ч. 105 арт. К. К.

Народны Камісар Юстыцыі
і Пракурор Рэспублікі **М. Сэгаль**.

Ч. вык. аб. Пам. Пракурора Рэспублікі **Кіпарысаў**.

13 ліпеня 1927 г.
№ 65.

## Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ БАРАЦЬБЕ З ЗАТРЫМЛІВАНЬНЕМ ВЫПЛАТЫ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ Ў ПРАДПРЫЕМСТВАХ І ЎСТАНОВАХ.

*Усім Старшыням Акруговых Судоў і Акруговым Пракурорам.*

*ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!*

Абежнікам НКЮ за 28 мая 1927 г. за № 40 было прапанована ўсім акруговым пракурорам шэраг практычных мерапрыемстваў па барацьбе з запазычанасьцю па зарплаце. Пытаньне аб сваечасовай выплаце зарплаты, дзякуючы няўважнай адносіне да яго кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў, застаецца яшчэ не ўрэгуляваным.

Па зьвестках, якія маюцца ў НКЮ, зарплата ў шэрагу прадпрыемстваў ня выплачваецца своечасова, ня гледзячы на дадзеныя дырэктывы па гэтаму пытаньню і абавязках прынятых кіраўнікамі прадпрыемстваў перад прафсаюзамі пры заключэньні калектыўных умоў.

Зварочваючы на вышэйпамянёнае Вашу ўвагу, Народны Камісарыят Юстыцыі лічыць неабходным узмацненьне нагляду органаў пракуратуры ў гэтай галіне.

Акруговым Пракурорам неабходна, паводле абежніку № 40, устанавіць цесную сувязь з прафсаюзнымі органамі і органамі НКП на мясцох дзеля выяўленьня падобных парушэньняў.

Справы аб запазычанасьці па зарплаце ахопліваючыя значную групу працаўнікоў перадаваць дзеля расьсьледваньня ст. сьледчаму акругі. Да справы ў расьсьледваньні трэба прыцягнуць прадстаўнікоў адпаведнага прафсаюзу і інспэкцыі працы.

Акруговым судом неабходна даць дырэктыву нарсудом і працсэсіям аб разглядзе гэтых спраў у першую чаргу.

Акруговым Пракурорам прапануецца прадставіць не пазьней 15 жніўня зьвесткі ў відзе спэцыяльнага данясеньня аб правядзеньні ў жыцьцё абежніка № 40 і гэтага ліста.

З таварыскім прывітаньнем.

**М. Сэгаль.**

**Глезераў.**

19 ліпеня 1927 г.
№ 68.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ РОЗНАЙ АПЛАЦЕ ГЭРБАВЫМ ЗБОРАМ ДАГАВОРАЎ КАМІСІІ І ДАГАВОРАЎ ДАРУЧЭНЬНЯ.

*Усім Акруговым і Народным Судом і Дзяржаўным Натарыяльным Канторам.*

Адносінай за 20 чэрвеня г. г. № 543 Народны Камісарыят Фінансаў СССР па Упраўленьню дзяржаўнымі падаткамі паведаміў у Народны Камісарыят Фінансаў БССР тлумачэньне па пытаньні аб парадку аплаты гэрбавым сборам дагавораў камісіі і даручэньня.

Згодна гэтаму растлумачэньню, калі да выданьня ў Саюзных Рэспубліках законаў аб дагаворах камісіі ня было здавальняючых падстаў да разьмежаваньня дагавораў камісіі ад дагавораў даручэньня, дык з выданьнем гэтых законаў у саюзных рэспубліках—становішча зьмянілася.

Па дагавору камісіі адна старана (камісіянэр) абавязваецца ўчыняць зьдзелкі па даручэньні і за рахунак другой стараны (камітэнт), але-ж ад свайго імя, паміж тым, як па дагавору даручэньня адна з старон учыняе вядомыя дзеяньні ня толькі па даручэньні і за рахунак другой стараны, але-ж і ад яе імя.

У адпаведнасьці з гэтым НКФ СССР растлумачыў, што паказаная розьніца дае падставу і да рознай аплаты гэрбавым зборам дагавораў камісіі і дагавораў даручэньня. Першыя падлягаюць прапарцыянальнаму гэрбаваму збору і разраду ўзмоцненага акладу на дакладнай падставе п. „д“ увагі 1-ай да § 37 таблі да 4 арт. аб гэрб. зборы, другія-ж падлягаюць таму-ж разраду гэрбавага збору (па § 37 гэткай таблі), але-ж ня ўзмоцненага акладу, бо ўзмоцнены аклад падлягае прыстасаваньню толькі да катэгорый дагавораў, якія паказаны ў законе.

Паведамляючы аб вышэйвыкладзеным і прымаючы пад увагу, што на тэрыторыі БССР дзейнічае Палажэньне аб дагаворы камісіі, зацьверджанае пастановай ЦВК і СНК БССР 7 лютага 1927 г. (З. З. БССР 1927 г. № 9, арт. 30 і ГК ў выданьні 1927 г. гл. X, арт. арт 285— 312), Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе: Вышэйпаказанае тлумачэньне НКФ СССР прыняць да ведама і кіраваньня.

Народны Камісар Юстыцыі **М. Сэгаль,**

Ст. Інструктар **Барышаў.**

21 ліпеня 1927 г.
№ 70.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ УЗМАЦНЕНЬНІ РАБОТЫ ПА ДАЗНАНЬНЯХ ПА ПРАЦОЎНЫХ СПРАВАХ.

*Усім Акруговым Пракурорам.*

У мэтах паляпшэньня работы органаў дазнаньня па працоўных справах (інспэкцыі працы), паляпшэньня якасьці дазнаньняў і ўстанаўленьня аднастайнага кіраўніцтва і інструктаваньня інспэкцыі працы ў галіне дазнаньняў па працоўных справах, згодна пастановы калегіі („Весьці НКЮ“ № 4—5 1927 г.) Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1. Усе дазнаньні па працоўных справах у акруговых гарадох прымацаваць да аднаго з народных сьледчых гораду, менш загружанага вучастку. Аб гэтым паведаміць інспэкцыю працы.

2. Абавязаць прымацаваных сьледчых перыядычна вытвараць абсьледваньні камэр дазнаньня і інструктаваць інспэктароў працы ў галіне тэхнікі вытварэньня дазнаньня.

3. Прапанаваць усім інспэктаром працы ўсе дазнаньні па гораду накіроўваць прымацаванаму сьледчаму і да яго-ж зварочвацца па розных пытаньнях, якія адносяцца да вытвару дазнаньня.

4. Пры абсьледваньні працы сьледчага і інспэктара працы акруговыя пракуроры павінны праверыць даведваньні сьледчымі камэры інспэкцыі працы і якое кіраўніцтва і інструктаваньне праводзіліся першымі.

5. Усе дазнаньні па раёнах павінны накіроўвацца ў агульным парадку паводле арт. 105 КПК.

6. Аб выкананьні гэтага абежніку паведаміць ў сваіх чарговых справаздачах, прадстаўляемых у Пракуратуру Рэспублікі.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Ст. Пам. Пракурора БССР **С. Гохман.**

Пракурор па Працоўных
Справах пры НКЮ **Глезераў.**

25 ліпеня 1927 г.
№ 71.

---

Рассылаецца на падставе арт. 4 наказу ККК па зацьверджаньні яго Пленумам Найвышэйшага Суду ў пасяджэньні ад 17 сакавіка 1927 году.
Старшыня Найвышэйшага
Суду **Варашылаў.**

## Інструкцыйны ліст Крымінальнай Касацыйнай Калегіі Найвышэйшага Суду БССР.

*Старшыням Акруговых Судоў.*

ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!

Практыка Крымінальна-Касацыйнай Калегіі Найвышэйшага Суду за 1926 г. выявіла, што ў рабоце акруговых судоў, пры наліччы цэлага шэрагу дасягненьняў, ёсьць таксама істотныя недахопы, якія тлумачацца нездавальняючым вывучэньнем судовымі працаўнікамі асноўных прынцыпаў агульнай часьці Крымінальнага Кодэксу і не выкананьнем нормаў працэсу, ужываньне якіх у мэтах выяўленьня матар'яльнай праўды па справе зьяўляецца для суду бязумоўна абавязковым. Маючы на мэце выявіць гэтыя недахопы і паказаць правільны шлях да адхі-

леньня іх на будучы час, Найвышэйшы Суд рассылаючы гэты ліст, прапануе абмеркаваць яго на бліжэйшых Пленумах Судоў з мэтай падрабязнага вывучэньня з паказанымі ў ім палажэньнямі ўсяго Пленуму Суду.

## Аб арт. арт. 28 і 36 Кр. Код.

Практыка ККК побач з правільным ужываньнем судамі арт. арт. 28 і 36 КК па дробных маемасных і бытавых злачынствах, ня маючы цяжкіх вынікаў і ўчыненым рабочымі або працаўнікамі сялянамі ў першы раз па несьвядомасьці, цемнаце і г. д., ведае шмат выпадкаў ужываньня судамі арт. арт. 28 і 36 КК і пры тым амаль не без абаснаваньня па такіх злачынствах, якія з прычыны шырокага распаўсюджваньня і асаблівай небясьпекі для Рэспублікі, зьяўляюцца асабліва сацыяльна-небясьпечнымі і значыцца, выклікаюць неабходнасьць узмацненьня па іх спосабаў сацыяльнай абароны.

Па справе пад № 1015 начальнік раённай міліцыі, яго памочнік і пяць міліцыянэраў, г. з. увесь склад раённай міліцыі, сыстэматычна біў пры допыце западозраных у якім-небудзь злачынстве.

Прызнаўшы іх вінаватымі ў дзеяньні, прадугледжаным 2 ч. 106 арт. КК, суд, налажыўшы на іх кару пазбаўленьня волі на тры гады і па дапасаваньні да іх арт. арт. 28 і 36 КК, пакараньне гэтае залічана ўмоўным.

Па справе № 561 намесьнік начальніка раённай міліцыі і агэнт Крымінальнага Вышуку пры допыце западозранага ў крадзяжы рэвальвэра старога селяніна 65-ці гадоў, білі яго рукамі і шампаламі па галаве і іншых частках цела, хапалі за горла і валасы, а таксама катавалі яго, укладваючы між пальцаў рук коркі і палачкі, а потым сьціскаючы рукі.

Суд кваліфікаваў іх дзеяньне па арт. арт. 112 і 2 ч. 157 КК (трэба было па арт. арт. 112 і 2 ч. 106 КК) і пакараўшы іх пазбаўленьнем волі на два гады кожнага і па дапасаваньні арт. 28 КК, прыняўшы пад увагу іх ранейшую карысную дзейнасьць, зьнізіў пакараньне аднаму—да аднаго году, а другому—да паўтара году пазбаўленьня волі бяз суровага адмежаваньня. Гэтыя два прыгавары зьяўляюцца зразумела няправільнымі: змаганьне з злачынствамі, прадугледжанымі арт. 112 і 2 ч. 106 арт. КК, зьяўляецца сумесна з тым змаганьнем за рэвалюцыйную законнасьць, якую груба парушылі адсуджаныя, прыстаўленыя для таго, каб праводзіць яе ў вёсцы, а суд-жа ніякіх выключных акалічнасьцяй, патрабуемых для дапасаваньня арт. 28 КК ў гэтай справе не ўстанавіў.

Такі-ж няправільны падыход судоў пры дапасаваньні арт. арт. 28 і 36 КК наглядаецца і па справах, прадугледжаных 1 ч. 113 арт. КК, калі прыказчыку сельскага каапэратыву, да рэвалюцыі дзяку, за растрату тавараў на 477 руб., г. з. амаль ня ўсіх тавараў гэтага каапэратыву, пакараньне зьніжана да двух месяцаў пазбаўленьня волі, або вайсковаму магазыньніку, прысвоіўшаму значную колькасьць бялізны, прызначаецца пазбаўленьне волі ўмоўна на адзін год, або калі па 2 ч. 149 арт. КК, аднаму з вельмі цяжкіх злачынстваў супроць асобы, маючым даволі шырокае распаўсюджаньне ў нашай вёсцы, ужываецца ўмоўнае пазбаўленьне волі па матывах, што асуджаныя зьяўляюцца беднымі сялянамі, ці раней ня судзіліся. Вышэй прыведзеныя прыклады відавочна сьведчаць аб тым, што суды пры дапасаваньні арт. арт. 28 і 36 часта не даацэньваюць ні ступені небясьпекі асоб, учыніўшых злачынства, ні небясьпекі самога злачынства.

## Аб арт. арт. 40 і 42 Кр. Код.

Наглядаюцца выпадкі, калі пры прызначэньні судамі доўгіх тэрмінаў пазбаўленьня волі, пазбаўленьне правоў мэханічна далучаецца да асноўнага пакараньня, незалежна ад характару злачынства і асобы асуджанага, а з другога боку, наўпрэкі рашучага патрабаваньня арт. 42 КК аб абавязковай пастанове пытаньня аб пазбаўленьні правоў пры асуджаньні, калі ў КК паказана пакараньне пазбаўленьнем волі на тэрмін больш аднаго году, ці болей цяжкае пакараньне, гэтае патрабаваньне судом ня выконваецца (с. с. №№ 50, 148, 1141).

Прымаючы пад увагу, што пазбаўленьне праў зьяўляецца вельмі цяжкім пакараньнем для працоўных, трэба пры пазбаўленьні правоў адсуджаных - працоўных кожны раз падлічваць, ці скарыстае гэтыя правы пасьля адбыцьця пакараньня асуджаны на супроць працоўных, ці не, ці анясланен асуджаны акалічнасьцямі справы на столькі, што ажыцьцяўленьне ім правоў, пасьля адбыцьця пакараньня, можа зьменшыць значэньне гэтых правоў у вачох працоўных; пры прызнаньні-ж асуджанага па суду неабняслаўленым, трэба заўжды паказваць у прыгавары: „Без пазбаўленьня ў правох“.

## Аб арт. 97 Кр. Код.

Пытаньне аб тым, ці зьяўляецца кантрабанда кваліфікаванай, або простай, зьяўляецца істотным пры разгледжаньні спраў па арт. 97 КК, паколькі кваліфікаваная кантрабанда цягне за сабою ўжываньне спосабаў сацыяльнай абароны ў парадку судовым, а простая кантрабанда толькі адміністрацыйнае ўзысканьне.

Некаторыя суды, як гэта відаць з Кр. Кас. практыкі (с. с. №№ 288, 480, 1073, 1541, 1562) нездавальняюча вывучылі, што трэба разумець пад транспартнымі сродкамі спэцыяльна прызначанымі для правозу кантрабанды і пад памяшканьнямі асабіста дапасаванымі для захаваньня кантрабанды. Так, захаваньне кантрабанды ў пуні селяніна, перавозка кантрабанды на простых сялянскіх калёсах пры адсутнасьці іншых прымет, паказаных у арт. 251 Мытнага Статуту, разгледжваецца судамі, як кваліфікаваная кантрабанда.

Трэба памятаць, што пад спэцыяльнымі транспартнымі сродкамі разумеюцца такія, якія выключна, або ва ўсякім разе пераважна прызначаны для перавозкі кантрабанды, а пад асобнымі памяшканьнямі трэба разумець такія, якія ў мэтах захаваньня кантрабанды робяць у кватэрах, калёсах, вагонах і г. д. шляхам упарадкаваньня падвойных падлогаў, падвойнага дна, замаскіраваных дзірак у дузе, аглоблях і г. д., такім чынам ні перавозка на простых сялянскіх калёсах, прызначаных для абслугоўваньня сялянскай гаспадаркі, ні захаваньне кантрабанды ў пуні, прыначанай для сена, ня могуць разгледжвацца, як кваліфікаваная кантрабанда пры адсутнасьці якіх небудзь спэцыяльна для хаваньня дапасаваных штучных памяшканьняў у калёсах, або пуні.

## Аб арт. арт. 105, 107, 108, 109, 112, 117 Кр. Код.

Вялікі працэнт скасаваных і спыненых за адсутнасьцю складу злачынства спраў па гэтых арт. арт. КК (с. с. №№ 64, 66, 72, 121, 270, 844, 1054, 1238, 1351, 1367, 1454, 1471, 1473, 1524, 1575, 1609, 1618, 1758), сьведчыць аб тым, што да гэтага часу яшчэ шмат якімі судамі ня вывучаны арт. 105 КК ў часьці разьмежаваньня службовага злачынства ад службовай правінкі, зьяўляючайся асноўнай па пытаньню аб крымінальным і дысцыплінарным прасьледваньні службовых асоб, дзеля чаго мы лічым патрэбным у адпаведнасьці з тэкстам арт. 105 КК даць падробныя паказаньні, у якіх выпадках злоўжываньне уладай з боку службовых асоб, падлягае кваліфікацыі, як службовай правінкі і ў якіх выпадках, як службовае злачынства.

Злоўжываньне ўладай, як службовая правінка будзе ў тых выпадках, калі ў дзеяньні службовай асобы былі наступныя прыметы:

а) магчымасьць учыненьня дзеяньня, дзякуючы толькі службоваму становішчу;

б) учыненьне такога дзеяньня, якое ня выклікана меркаваньнямі службовай неабходнасьці і акрамя таго, каб гэтыя дзеяньні мелі ў выніку адну з наступных прымет:

а) відавочнае парушэньне правільнай работы ўстановы, або прадпрыемства;

б) маемасная страта ўстановы, або прадпрыемства;

в) парушэньне грамадзянскага парадку, або захоўваемых законам правоў і інтарэсаў асобных грамадзян.

Пад злоўжываньнем уладай, як службовага злачынства, трэба разумець такія дзеяньні службовай асобы, якія, апрача прымет службовай правінкі паказаных вышэй, маюць хоць-бы адну з наступных прымет:

а) сыстэматычнасьць учыненьня службовых правінак;

б) хцівая або іншая асабістая зацікаўленасьць пры ўчыненьні службовых правінак;

в) налічча асобна цяжкіх вынікаў службовых правінак, або магчымасьць наступленьня такіх вынікаў, калі гэтая магчымасьць сузнавалася службовай асобай, учыняючай службовую правінку.

Такім чынам, пры адсутнасьці ў дзеяньні службовай асобы сыстэматычнасьці, хцівай або іншай зацікаўленасьці, а таксама і асобна цяжкіх вынікаў, дзеяньне прыцягнутых да справы службовых асоб ні ў якім разе не павінна цягнуць за сабой дапасаваньня спосабаў сацыяльнай абароны у парадку крымінальнага прасьледваньня, а толькі могуць разгледжвацца як службовыя правінкі, якія цягнуць за сабою накладаньне дысцыплінарных пакараньняў, адпаведнымі адміністрацыйнымі органамі, а ня судамі.

Таксама неабходна паказаць і на няправільнасьці, дапушчаемыя судамі, калі яны злачынныя дзеяньні службовых асоб пры выкананьні імі службовых абавязкаў, якія выявіліся ў перавышэньні ўлады з гвалтам, кваліфікуюць гэтыя дзеяньні не па арт. 105 КК, а ў залежнасьці ад ступені гвалту па арт. арт. 157 153, 145 (с. с. №№ 561, 1017, 1449, 1651).

## Аб арт. 113 Кр. Код.

Канстатуючы, што ўжываньне судамі спосабаў сацыяльнай абароны па справах аб стратах наогул праводзілася правільна, бо яны азначаліся судамі ў залежнасьці ад сацыяльнага становішча, займаемай пасады і растрачнай сумы, неабходна аднначасова паказаць і на наступныя няправільнасьці, дапушчаныя судом:

а) па шэрагу спраў пры ўстанаўленьні толькі факту па недахопу маемасьці, здарыўшайся ў выніку дробнай безгаспадарнасьці, або нядбайнасьці і пры адсутнасьці даных аб тым, што маемасьць, якая аказалася ў недахопе і якая была даверана абвінавачанаму, была ім скарыстана, суды ўжываюць арт. 113 КК (с. с. №№ 1, 332, 1473);

б) пры адсутнасьці прымет, прадугледжаных 2 ч. 113 арт. КК, ужывалі яе нават адносна тэхнічных працаўнікоў і пры растратах на суму 50 руб. (с. № 147);

в) апраўдывалі за адсутнасьцю складу злачынства пры папаўненьні растраты ў момант рэвізыі (с. № 11).

З мэтай адхіленьня гэтых няправільнасьцяй, якія напэўна перашкаджаюць правільна ўзятай судамі лініі ў барацьбе з растратамі, Найвышэйшы Суд прапануе:

а) пры ўстанаўленьні недахопу маемасьці трэба старанна, як на папярэднім, так і на судовым сьледзтве, дасьледваць прычыны, выклікаўшыя гэты недахоп, і толькі пры ўстанаўленьні факту прысваеньня абвінавачаным гэтай маемасьці, дзеяньні абвінавачаных падлягаюць кваліфікацыі па арт. 113 КК.;

б) ужыць 2 ч. 113 арт. КК тады, калі растрата наддаецца службовай асобай, маючай асобныя паўнамоцтвы, пад якімі трэба разумець такія, якія як агульнае правіла, у галіне распараджэньня грашамі, або маемасьцю, належаць да старшыні ўстановы, або намесьніка, або калі прадметам растраты зьяўляецца маемасьць на суму больш 3000 руб.;

в) пры папаўненьні растраты ў момант рэвізіі лічыцца з гэтым фактам, як з акалічнасьцю, якая можа служыць асновай для зьмягчэньня пакараньня, а ні ў якім разе, як акалічнасьць, якая адхіляе злачыннасьць дзеяньня.

## Аб арт. арт. 142, 143, 149 Кр. Код.

Няправільнасьць назначэньня судамі мяккіх мер сацыяльнай абароны шляхам дапасаваньня арт. арт. 28 і 36 КК мы лічым неабходным адзначыць асабліва адносна найцяжкіх злачынстваў проціў асобы, зьвязанных з пазбаўленьнем жыцьця.

Злачынствы гэтыя, як паказвае практыка Крымінальна-Касацыйнай Калегіі, бязупынна павялічваюцца і пры тым сярод сялян: сацыяльная небясьпечнасьць гэтых злачынстваў відавочна.

Дзеля гэтага суды пры разгледжаньні гэтых спраў павінны вельмі асьцярожна падыходзіць да зьніжэньня мер сацыяльнай абароны, а тым болей да ўмоўнага асуджаньня, абавязкова падрабязна абасноўваючы ў кожным выпадку падставы ўжываньня арт. арт. 28 і 36 КК.

Пяройдзем да найбольш частых парушэньняў судамі працэсуальных норм.

## Аб арт. арт. 63 і 298 Кр. Пр. Код.

Ня гледзячы на рашучае патрабаваньне арт. 63, увага 1 КПК аб абавязковым выкліку экспэртаў для ўстанаўленьня прычын сьмерці і характару цялесных пакалечаньняў, яно па шэрагу спраў судамі ня выконваецца (с с. №№ 500, 385, 495, 546, 1597, 1622, 74, 476). Таксама ня выклікаюць суды на дапамогу экспэртаў пры наліччы ў справе паказаньня на псыхічную нязвычайнасьць абвінавачанага (с. с. №№ 300, 749, 1553), па трудных гаспадарчых справах да кнігаводнай экспэртызы нават пры наліччы асобнай думкі аднаго з рэвізуючых (с. с. №№ 1654, 1656), для расьсьледваньня почарку (с. с. №№ 346, 1594), для агляду стральбы (с. № 1187).

Маючы на ўвазе, што згодна арт. 58 КПК экспэртызы выяўляюцца адным з довадаў па справе, што хоць заключэньне экспэртызы для судоў і не абавязкова, аднак, паводле арт. 298 КПК, нязгода суду з экспэртызай павінна быць ім падрабязна матывіравана ў прыгавары або асобнай пастанове, што такім чынам адсутнасьць экспэртызы зьяўляецца ня толькі фармальным парушэньнем арт. 63 КПК, але цягне за сабой недасьледванасьць па справе і пры тым па істотнаму пытаньню, Найвышэйшы Суд лічыць неабходным даць падробнае тлумачэньне гэтых арт. арт. КК:

а) для ўстанаўленьня прычын сьмерці і характару цялесных пакалечаньняў выклік экспэртаў для суду абавязковы, незалежна ад таго, ці ёсьць па гэтаму поваду ў судзе сумненьне, ці яго няма;

б) па пытаньню аб выяўленьні псыхічнага становішча абвінавачанага або сьведкі выклік экспэртаў не абавязковы і экспэрты падлягаюць выкліку толькі тады, калі ў судзе або сьледчага па гэтаму поваду ўзьнікаюць сумненьні, г. з. калі ў справе маюцца здавальняючыя даныя аб псыхічнай ненармальнасьці абвінавачанага, або сьведкі і

в) у іншых выпадках экспэрты выклікаюцца тады, калі пры расьсьледваньні або разгледжаньні справы неабходны спэцыяльныя веды ў навуцы, мастацтве або рамястве, г. з. калі пытаньне аб віноўнасьці знаходзіцца ў залежнасьці ад характару почарку, ад правільнай ацэнкі рахунковасьці, ад спэцыяльных тэхнічных пытаньняў (абгляд стральбы) і г д.

Побач з гэтым неабходна паказаць і на тое, што і пры выкліку экспэртызы суды не далучаюць да спраў пісьмовых заключэньняў экспэртызы (с. с. №№ 312, 546, 1216, 1651), а пры нязгодзе з заключэньнем экспэртызы не выкладаюць у прыгавары або асобнай пастанове падстаў сваёй нязгоды (с. с. №№ 91, 499, 1185, 1216).

Хоць заключэньне экспэртызы для суду і не абавязкова, з прычыны чаго нязгода суду з заключэньнем экспэртызы, згодна арт. 298, ч. 3 КПК, зьяўляецца зусім законным, неабходна аднак, згодна таму-ж арт. КПК, гэтую нязгоду падрабязна абаснаваць памятуючы, што экспэртыза дае сваё заключэньне на падставе навучных данных і спэцыяльных ведаў, якія дадзены пры нязгодзе суду і належыць зьняпраўдзіць, а не абходзіць маўчаньнем.

## Аб арт. арт. 111, 112, 114, 236—241, 253, 254 Кр. Пр. Код.

Недасьледаванасьць спраў зьяўляецца аднэй з самых галоўных прычын адмены прыгавару па большасьці спраў (с. с. №№ 21, 61, 115, 173, 225, 263, 348, 350, 318, 366, 385, 423, 437, 476, 546, 610, 628, 1026, 1143, 1187, 1204, 1216, 1217, 1231, 1245, 1278, 1341, 1343, 1359, 1424, 1566, 1567, 1573, 1650, 1673, 1724, 1812) дзеля чаго на гэты бок трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, з прычыны таго, што недасьледаванасьць па справе цягне за сабою заўсёды адмену прыгавару.

Практыка Крымінальна-Касацыйнай Калегіі ведае шмат выпадкаў, калі заявы абвінавачаных у стадыі папярэдняга сьледства аб выкліку сьведак, або аб далучэньні важных дакумэнтаў прышываюцца да справы з надпісам „да справы“, толькі таму, што гэтыя новыя акалічнасьці, на якія паказваюць абвінавачаныя, могуць зьмяніць той кіраўнік справы, які яму прыдаў сьледчы на падставе матар'ялаў, якія ў яго былі. Такі падыход да справы зьяўляецца няправільным, бо паводле арт. 111 і 112 КПК. сьледчы павінен выяўляць і дасьледваць акалічнасьці, як даказваючыя на абвінавачанага, так і апраўдваючыя яго, накіроўваючы сьледзтва ў бок найбольш поўнага выяўленьня справы, матывіруючы кожны раз сваю адмову ў асобнай пастанове.

Таксама і суд, наўпрэкі патрабаваньням арт. арт. 263 і 254 КПК аб тым, што асновы адмовы ў выкліку сьведак і экспэртаў і аб выпатрабаваньні іншых довадаў павінны быць выкладзены ў матывіраванай пастанове суду, адмаўляюць старанам бяз усякай матывіроўкі, або ў большасьці выпадкаў, фармальна матывіруюць сваю адмову, паказваючы на „няістотнасьць“ для справы падлягаючых устанаўленьню акалічнасьцяй, ці вытрабаваньню дакумэнтаў, якая матывіроўка раўнаноцна адсутнасьці яе.

Надаючы асабліва важнае значэньне поўнаму разгледжаньню справы з мэтай выяўленьня магар'яльнай праўды па справе, Найвышэйшы Суд прапануе пры адмове падрабязна паказаць, чаму падлягаючыя ўстанаўленьню акалічнасьці, ці вытрабаваньню дакумэнты ня маюць значэньня для справы.

У мэтах-жа зьмяншэньня колькасьці спраў, накіроўваемых да дасьледваньня ў судовым пасяджэньні зьвязаных з паўторным выклікам сьведак, экспэртаў, пацярпеўшых і г. д., судом у распарадчым пасяджэньні пры разьвязаньні пытаньня аб адданьні пад суд, трэба дакладна разглядаць акты папярэдняга сьледства, а ня толькі адно абвінавальнае заключэньне (увага да арт. 236 КПК выключна) і ў выпадку нездавальняючай выяўленасьці тых, або іншых акалічнасьцяй па справе, маючых для справы істотнае значэньне, накіроўваюць такія справы ў Пракуратуру для дасьледваньня.

## Аб арт. 319 Кр. Пр. Код.

Вельмі важным істотным парушэньнем, што цягне за сабою частую адмену прыгавараў, зьяўляецца парушэньне арт. 319 КПК (с. с. №№ 173, 224, 225, 449, 450, 546, 845, 1107, 1204; 1278, 1375, 1449, 1511, 1572, 1592, 1607, 1610, 1620, 1627, 1650, 1654, 1677, 1812) гэта сьведчыць аб тым, што судамі ня вывучан яшчэ ў здавальняючай меры арт. 319 КПК, ці лепш сказаўшы, вывучана толькі тая частка яе, якая гаворыць аб тым, што ацэнка маючыхся ў справе довадаў утвараецца судзьдзямі

па іх ўнутранаму перакананьню, і забыта тая частка, якая патрабуе, каб гэтае перакананьне суду было пагрунтована на разгледжаньні ўсіх акалічнасьцяй справы разам узятых.

Для правільнага разуменьня арт. 319 КПК трэба кіравацца наступным:

а) прыгавар суду ні ў якім разе ня можа быць абасноўван на дапушчэньнях або дагадках суду; адсюль выходзіць, што ў прыгавары ня можа быць таго, чаго няма ў справе і што супярэчыць акалічнасьцям справы, напрыклад: пры выяўленасьці па справе недахопу маемасьці і адсутнасьці якіх небудзь данных аб прысваеньні гэтай маемасьці абвінавачаным, вывад суду аб віноўнасьці абвінавачанага ў дзеяньні, прадугледжаным арт. 113 КК аснован на данных, якіх у справе няма і такі прыгавар, які аснован на дапушчэньнях суду з парушэньнем арт. 319 КПК зьяўляецца няправільным; пры ўстанаўленьні па справе злоўжываньня ўладай з боку службовай асобы і пры даведзенасьці пры гэтым адсутнасьці асабістай або хцівай зацікаўленасьці, вывад суду аб прызнаньні падсуднага вінаватым па арт. 105 ч. 1 КК толькі таму, што ен меў хцівую мэту супярэчыць акалічнасьцям справы, і такі прыгавар таксама будзе няправільным.

Зьяўляецца, значыцца, зусім нездавальняючым паказаньне ў апісацельнай частцы прыгавару аб віноўнасьці ў растраце або ў злоўжываньні уладай з хцівай мэтай і на гэтай толькі падставе кваліфікаваць дзеяньне па арт. арт. 113 і 105, ч. 1 КК, а неабходна, каб гэтыя істотныя для кваліфікацыі дзеяньні і прыметы былі абасноўваны на акалічнасьцях справы.

Ацэнка довадаў, якія маюцца ў справе, прыналежыць судзьдзям па іх унутранаму перакананьні і пытаньне аб тым, каму са сьведак суд паверыў, а каму не паверыў, як суд расцэньваў шэраг маючыхся па справе пасрэдных улік, не падлягае нават праверцы касацыйнымі інстанцыямі пры абавязковай аднак умове, каб гэтае пакараньне было не адвольным, а пабудаваным на разгледжваньні ўсіх акалічнасьцяй справы ў іх сутнасьці; пры чым пытаньне аб абаснованасьці гэтага перакананьня суду па акалічнасьцях справы падлягае праверцы і касацыйнай інстанцыяй, так, калі частка сьведак па справе аб забойстве даказвае на падсуднага, а частка ўстанаўлівае яго бязьвіннасьць, то пры ўстаноўленасьці злачынства, ацэнка супярэчных паказаньняў сьведак прыналежыць да суду і прызнаньне падсуднага вінаватым ў забойстве ня будзе знаходзіцца ў супярэчнасьці з акалічнасьцямі справы і значыцца і з арт. 319 КПК, але, калі па гэтай справе ні адзін са сьведак не даказвае на падсуднага і калі пры гэтым наогул няма ніякіх довадаў віноўнасьці падсуднага, а суд грунтуе свой прыгавар выключна на тым „перакананьні", што ніхто іншы, акрамя падсуднага ня мог учыніць гэтага забойства, то такі прыгавар зьяўляецца няправільным, бо ў даным выпадку „перакананьне" суду пабудована толькі на дапушчэньні.

## Аб арт. 334 Кр. Пр. Код.

У сьнежні 1924 г. Найвышэйшы Суд даў паказаньні судом аб парадку складаньня прыгавараў у адпаведнасьці з патрабаваньнямі арт. 334 КПК і разаслаў прыкладную форму прыгавараў.

Практыка Крымін.-Касацыйнай Калегіі за 1924 г, паказвае, што няправільнасьці, якія робяць суды пры складаньні прыгавараў, маюць шырокае распаўсюджваньне і да гэтага часу (с. с. №№ 224, 514, 998. 1107, 1112, 1216, 1387, 1597, 1626, 1655 і 1716). Маючы на ўвазе, што прыгавар зьяўляецца самым важным актам судовага справаўвядзеньня, што няправільнасьці далучаемыя судамі тлумачацца галоўным чынам тым, што суды ня вывучылі, як складаць фармуліроўку абвінавачаньня ў адпаведнасьці з арт. 334 КПК, Найвышэйшы Суд, рассылаючы пры гэтым у другі раз прыкладны прыгавар, тлумачыць: прыгавар павінен складацца з апісальнай і рэзалюцыйнай частак. Апісальная частка прыгавару заключае ў сабе фармуліроўку абвінавачаньня, у якім падсудны апраўдан ці якое прызнана даведзеным, а рэзалюцыйная частка прыгавару заключае паказаньні на асобу падсуднага на апраўданьне яго, або на прызнаньне прад'яўленага абвінавачаньня даведзеным і на абраную судом меру пакараньня.

Пад фармуліроўкай абвінавачаньня належыць разумець выкладаньне злачынных дзеяньняў абвінавачанага ў такім відзе, як яно выяўлена матар'яламі, пры чым фармуліроўка згодна арт. 334 КПК складаецца з наступных элементаў:

а) падробнае выявятленьне асобы абвінавачанага, г. з. імя, імя па бацьку, прозьвішча, узрост, клясавая прыналежнасьць, грунтоўны занятак бацькоў і дзе нарадзіўся, сацыяльнае становішча (рабочы, земляроб, служачы, гандляр, бяз вызначаных заняткаў, партыйнасьць, сямейнае становішча, маемаснае становішча, ранейшая судзімасьць з абавязковым паказаньнем на тое, кім і калі падсудны судзіўся, за што і ці адбыў пакараньне).

б) высьвятленьне асобы пацярпеўшага (клясавая прыналежнасьць і сацыяльнае становішча), якое зьяўляецца абавязковым у тых выпадках, калі самы занятак пацярпеўшага, або якая-небудзь уласьцівасьць яго асобы выклікалі самае злачынства або зрабілі ўплыў на спосаб учыненьня злачынства, высьвятленьне асобы сялькора забітага за напісаньне ў газэце артыкулаў супроць падсуднага, высьвятленьне асобы грамадзяніна, якому ўчынена на грунце зайздрасьці цялеснае пакалечаньне з нязгладжальнаю брыдкасьцю твару;

в) месца і час учыненьня злачынства. Гэта так відавочна, што не патрабуе тлумачэньня;

г) паказаньне спосабаў учыненьня злачынства і іншых адзнак, якія па акалічнасьцях справы могуць мець месца і ў гэтай частцы прыгавару, складаючай сутнасьць фармуліроўкі абвінавачаньня, прыметы злачынных дзеяньняў павінны быць так выкладзены, каб з іх было відавочна, што якраз учынена падсудным у сапраўднасьці; дзеля гэтага фармуліроўка абвінавачаньня ў апісальнай частцы прыгавару ні ў якім разе не павінна заключаць у сабе агульных выразаў і адцягнутых (отвлеченных) юрыдычных тэрмінаў, а павінна заключаць у сабе выкладаньне рэальных, у сапраўднасьці быўшых злачынных дзеяньняў падсуднага ў той іх сумеснасьці і пасьлядоўнасьці, як гэта выяўлена судом, пры чым дзеяньні асуджаных павінны быць выкладзены так, каб матывы злачынства і характар яго „наўмысны“, або неасьцярожны няўхільна выходзілі з гэтага выкладу.

Па гэтых-жа меркаваньнях трэба прызнаць бязумоўна няправільным пры вынясеньні апраўдальных прыгавараў абмяжоўвацца ў апісальнай часьці кароткім выразам, што абвінавачаньне не даведзена, а трэба і ў гэтых выпадках таксама скласьці дзеяньні, учыненыя абвінавачаным, калі ен апраўдан за адсутнасьцю складу злачынства, або паказаць на тое, што такое дзеяньне наогул ня мела месца, калі абвінавачаны апраўдан за недаведзенасьцю здарэньня злачынства, або ў рэшце апісаць дзеяньне, якое мела месца, але ня было ўчынена абвінавачаным, калі апраўданьне наступіла за нездавальняючасьцю довадаў абвінавачаньня. Пасьля складаньня фармуліроўкі абвінавачаньня ў рэзалюцыйнай частцы прыгавару гэтую фармуліроўку абвінавачаньня трэба ўжо выкласьці юрыдычнай мовай з паказаньнем адпаведных арт. арт. КК, з адказам на пытаньні, прадугледжаныя арт. 320 КПК. Зразумела, юрыдычнае афармленьне фактаў апісальнай часткі прыгавару павінна цалкам выцякаць з іх і ім адпавядаць.

Старшыня ККК Найвышэйшага Суду БССР **Несьцер.**

1927 г. № 1.

---

Рассылаецца на падставе арт. 6 наказу ГКК па зацьвярджэньні яго Пленумам Найвышэйшага Суду ў пасяджэньні за 20 красавіка 1927 г.
Старшыня Найвышэйшага Суду БССР **Варашылаў.**

# Інструкцыйны ліст Грамадзянскай Касацыйнай Калегіі Найвышэйшага Суду БССР.

*Усім Старшыням Акруговых Судоў БССР.*

*ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!*

На падставе касацыйнай практыкі, ГКК выявіла такія недахопы ў працы судоў Рэспублікі, дапушчэньне якіх ў будучым не павінна мець месца. Мэтаю гэтага ліста зьяўляецца зьнішчэньне парушэньняў, заўважаных пры разгледжаньні ГКК спраў у касацыйным парадку і паказаць шляхі да іх зьнішчэньня ў будучым.

Больш усяго прыкмячаецца парушэньняў пры ўжываньні працэсуальных правіл. Пагэтаму, перш за ўсё ГКК знайшла неабходным зьвярнуцца да кругу дапасаваньня ГПК. Гэты ліст абымае ня ўвесь ГПК. а толькі тую частку яго, у якой наглядаліся альбо найбольш істотныя, альбо найбольш прыватныя парушэньні. Пры выкладаньні гэтага ліста захован парадак ГПК па арт. арт. і аддзелах,

## Арт. 2 Гр. Пр. Код.

Прыступаючы да разгляду грамадзянскай справы ня інакш, як па заяве зацікаўленай у тым стараны, суд перш за ўсё павінен праверыць ці зьяўляецца ісьцец той іменна зацікаўленай стараной, аб якой гаворыцца ў арт. 2-м ГПК, гэта значыць, ці мае ён права на падаваньне данага іску, бо суд ня мае права прыступаць да разгляду справы па пачыну ўсякага, хто-б не падаў заявы, як роўна па ўласнаму пачыну, паколькі дзеля гэтага неабходна падача заявы і пры тым толькі зацікаўленай стараны. Суд таксама абавязан прыступіць да разгляду справы ня толькі па пачыну зацікаўленай у тым стараны, але і па пачыну Пракурора, але для гэтага неабходна захоўваньне ім пэўнай умовы, г. зн. каб умешацельства Пракурора вымагалася неабходнасьцю аховы інтарэсаў дзяржавы або працоўных мас.

Прыкладам наяўнасьці такой умовы можа служыць прадугледжаны ў арт. 33 ГК выпадак, паводле якога Пракурор, як падлягаючы дзяржаўны орган, мае права пачаць справу ў тым выпадку, калі асоба, пад уплывам надзвычайнай патрэбы, уступіла ў дужа нявыгадную зьдзелку, значыцца, дзеля таго, каб суд у падобным выпадку абавязан быў прыступіць да разгляду справы, даволі, калі па думцы Пракурора маецца неабходнасьць у ахове інтарэсаў дзяржавы або працоўных мас. Пагэтаму, пры такой умове, акрэсьліваемай толькі думкай Пракурора, суд абавязан прыступіць да разгляду справы.

**Старана можа ва ўсякім становішчы справы зьмяніць падставу іску, павялічыць або паменшыць свае іскавыя патрабаваньні.** Зьмена падставы іску маецца ў тым выпадку, калі замест адных фактаў парушэньня права, будуць паложаны другія; **павялічэньне або памяншэньне** іскавых патрабаваньняў—гэта ёсьць зьмена аб'ёму первястковага заяўленага патрабаваньня. Частка іску, ад якой ісьцец адмовіўся, ня можа быць у пасьледку заяўлена ў якасьці новага патрабаваньня. Пагэтаму, усякая адмова ад іску можа быць ня інакш як з дазволу суду. Значыцца, калі ад суду залежыць прыняць адмову, гэта значыць, што адмова ад іску не прадастаўлена на поўную волю ісца. Прыняцьце адмовы ад іску пазбаўляе старану права зьвярнуцца з новым іскам, заснованым на тых-жа падставах.

Заканчэньне справы мірам ёсьць ліквідацыя тых адносін, за дазволам якіх старана зьвярнулася ў суд. Згодна міравой зьдзелкі стороны могуць або даць поўнае здавальненьне адзін другому на судзе, або абавязаць адзін другога якімі небудзь дзеяньнямі, якія яшчэ павінны быць учынены старанамі.

Трэба пагэтаму памятаць, што пры ўсякай адмове ісца ад іску суд павінен высьвятліць ці не зьяўляецца гэта адмова вынікам міравой згоды яе з адказчыкам, бо ў гэтым выпадку ўмовы міравой зьдзелкі між старанамі павінны быць занесены ў пратакол судовага пасяджэньня пасьля абмеркаваньня іх судом паводле абежніку Найвышэйшага Суду аб па-за судовых і судовых міравых зьдзелках за 3-га чэрвеня 1926 г. за № В 268 Ц 32.

## Арт. 4 Гр. Пр. Код.

Не сьцясьняючыя ні паказаньнямі спрачаючыхся на законы, ні тлумачэньнем іх спрачаючыміся і не абумоўліваючыся адсутнасьцю паказаньняў спрачаючыхся на законы, суд абавязан кіравацца тымі законамі, якія ў сілу самога закону павінны быць яму вядомы, і пры тым тымі з іх, якія, па яго разуменьню, зьяўляюцца падыходзячымі к справе, тым больш, што законы, якімі суд кіраваўся пры вырашэньні справы, ён павінен зазначыць паводле п. „е“ арт. 176 ГПК ў пастаноўленым ім рашэньні. Належыць пагэтаму памятаць, што арт. 4 ГПК не дае суду права не дапасаваць к справе прамых паказаньняў або распараджэньняў Рабоча-Сялянскага Ураду па данаму пытаньню, калі гэтакія маюцца. У выпадку-ж неабходнасьці вырашэньня спрэчнага пытаньня на падставе агульных пачаткаў Савецкага Заканадаўства і агульнай палітыкі Рабоча-Сялянскага Ураду суд павінен не абмяжоўвацца толькі спасланьнем на гэтыя падставы, падрабязна выкласьці ў рашэньні, на якіх іменна агульных пачатках заканадаўства, або на якой іменна агульнай палітыцы Ураду ён грунтуе сваё рашэньне, бо бяз гэтага падрабязнага выкладу, рашэньне застаецца галаслоўным, неабаснованым і не даючым, значыцца, магчымасьці праверыць правільнасьць такіх агульных спасланьняў. Дзеля гэтага трэба мець на ўвазе, што выраз—**агульная палітыка Рабоча-Сялянскага Ураду,** ужыты ў арт. 4 ГПК, абазначае тую граніцу, за якую не павінен пераходзіць суд пры вырашэньні пытаньняў, не прадугледжаных законам. Гэтакія, напрыклад, арт. арт. 1 і 4 ГК, якія паказваюць толькі пачатак агульна-грамадзянскага абавязку ажыцьцяўляць сваё індывідуальнае права ня толькі бяз шкоды для акружаючага цэлага, але і з прамою карысьцю для гэтага апошняга.

Між тым былі рашэньні, у якіх арт. 4 ГПК дапасоўваўся пры наліччы пэўнага закону, так напрыклад; суд, спаслаўшыся на арт. 4 ГПК панізіў падлягаючыя па яго прызнаньню прысуджэньню страты на тэй толькі падставе, што пры абме-

жаваньні на рынку кандыцыённага тавару і значнай колькасьці дастаўкі гэтакага прадаўцом пакупніку—пакупнік асабістым выступленьнем на рынку перашкаджаў прадаўцу вытвараць загатоўку; або ў другім выпадку, суд спаслаўшыся на арт. 4 ГПК адмовіў у іску аб прысуджэньні сродкаў на ўтрыманьне дзіцяці на тэй толькі падставе, што ў адказчыка ня было сродкаў.

## Арт. 5 Гр. Пр. Код.

Роля суду, па арт. 5 ГПК заключаецца ў высьвятленьні сапраўдных праў і ўзаемаадносін спрачаючыхся. Тэкст і агульны сэнс гэтага арт. служыць аднэй з галоўных адзнак асноў дарэвалюцыйнага грамадзянскага працэсу ад устаноўленых ГПК палажэньняў: папершае, як вызваляючы савецкі суд ад старых форм сасьцязальнага працэсу і па-другое, абавязваючы суд паказаньню актыўнага садзейнічаньня спрачаючымся, к забесьпячэньню іх праў і законных інтарэсаў. Ураджуменьне несапраўдных праў і ўзаемаадносін старон і іменна судом, як органам улады дзяржавы, значыць, што суд абавязан устанавіць усе акалічнасьці справы, неабходныя для разуменьня ўзаемных адносін між старанамі, а не абмяжоўвацца толькі тымі, якія паказаны тэю або іншаю з старон.

Суд павінен ведаць усё, у чым сапраўды заключаецца справа, не застаўляючы нявыяўленым тое, аб чым адна старана па нявопытнасьці, або па юрыдычнай неасьвядомленасьці ўпусьціла паведаміць суду, а другая знайшла лепшым для сябе змаўчаць. Дзеля гэтага, карыстаючыся правам расспросу, суд абавязан дапамагаць старанам высьвятліць у справе тыя **акалічнасьці**, якія істотна неабходны для вырашэньня справы; дапамагаць старанам у пацьвярджэньні такіх акалічнасьцяй доказамі, а ў адносінах да працоўных, калі яны зьяўляюцца старанамі **ў справе, аказваць актыўнае садзейнічаньне к забесьпячэньню іх праў і законных інтарэсаў.** Мэта такой функцыі суду заключаецца ў тым, каб такія акалічнасьці, як юрыдычная неасьвядомленасьць працоўных, іх малапісьменнасьць і інш. не маглі быць выкарыстаны ў шкоду для іх. Пагэтаму, невыкананьне тых вымаганьняў гэтага арт. служыць галоўнаю і найбольш частаю прычынаю адмены ГКК Найвышэйшага Суду рашэньняў.

Тым ня менш, часта сустракаюцца рашэньні судоў, у якіх апошнія або ня прымаюць мер да высьвятленьня ўзаемаадносін старон, не праяўляюць неабходнай ініцыятывы ў высьвятленьні ўсіх акалічнасьцяй, або ўскладаюць усю цяжкасьць даказваньня на самі стораны, спасылаючыся ў віде матыву пры адмовеў іску або пры яго здавальненьні толькі на тое, штоісьцец нічым свайго іску не даказаў, або што адказчык ніякіх доказаў не падаў супроць іску. Такія адмовы ў іску або яго здавальненьні зьяўляюцца зусім недапусьцімымі ў савецкім судзе.

## Арт. 10 Гр. Пр. Код.

Пры вырашэньні ў грамадзянскіх судох іскаў аб стратах, учыненых злачыннымі дзеяньнямі, некаторыя суды выносяць рашэньні, грунтуючыся выключна на тых лічбовых даных і інш. матар'ялах, якія пры выкладаньні акалічнасьцяй справы паказаны ў прыгавары крымінальнага суду па гэтай справе. Грамадзянскі суд павінен сам устанавіць, на колькі вымаганьні ісца адпавядаюць панесенаму ім ушчэрбку, пагэтаму зьяўляецца няправільным, калі суды, грунтуючыся выключна на лічбовых даных і матар'ялах крымінальнага суду выносяць рашэньні, бо прыгавар крымінальнага суду абавязкоў для грамадзянскага суду толькі па пытаньню аб тым, ці адбылося злачынства і ці ўчынена яно падсудным.

Прыпыненьне-ж крымінальнай справы за недахопам улік, па амністыі альбо па арт. 4-а КПК ня можа служыць для грамадзянскага суду падставай к адмове ў іску аб стратах па такой справе, паколькі ў гэтых выпадках, пацярпеўшы, паводле арт. 403 ГК, мае права на сплачваньне шкоды незалежна ад злачыннага характару дзеяньняў адказчыка.

## Арт. 17 Гр. Пр. Код.

Прадстаўнікі старон павінны быць забясьпечаны адпаведнымі правамоцтвамі. Аднак, нярэдка ГКК адмяняліся рашэньні судоў з прычыны таго, што прадстаўнікі старон, будучы дапушчанымі да вядзеньня справы, ня мелі ўстаноўленых правамоцтваў. Трэба дзеля гэтага заўсёды памятаць, што ўчыняемыя паверанным у інтарэсах давяральніка дзеяньні ўтвараюць для апошняга права і абавязкі, а пагэтаму прадстаўнікі старон могуць быць дапушчаны к вядзеньню справы толькі тады, калі яны на гэта маюць адпаведнае правамоцтва.

## Арт. 21—33 Гр. Пр. Код. Аб падсуднасьці.

Былі частыя памылкі судоў пры вызначэньні падсуднасьці грамадзянскіх спраў, якія адносяцца да разгляду ў судовым п радку, альбо зусім не падлягаючых судоваму разгляду, як падлягаючых разгляду ў адміністрацыйным парадку. Так напрыклад: суды вырашалі пытаньні аб муніцыпалізацыі або дэнацыяналізацыі будоваў і прадпрыемстваў млыноў, вырашэньня якіх пытаньняў цалкам адносіцца да кампэтэнцыі адміністрацыйных органаў; прымалі да разгляду справы, якія падсудны зямельным камісіям.

Само сабой разумеецца, што гэтыя памылкі могуць быць лёгка выжыты, папершае, пры ўважлівым разглядзе сутнасьці прад'яўленага іскавога патрабаваньня і падругое, пры бліжэйшым знаёмстве з ўзаканеньнямі, якія адносяцца к паказаным вышэй пытаньням, дзеля гэтага на недапушчэньне падобных парушэньняў у будучым неабходна зьвярнуць сур'езную ўвагу.

## Арт. 34—38 Гр. Пр. Код. Судовыя выдаткі.

Касацыйная практыка ГКК па выпраўленьню памылак судоў па пытаньню аб судовых выдатках паказвае, што выпадкі парушэньняў, якія дапушчаны судамі пры прысуджэньні судовых выдаткаў, не адзінкавы. Так напрыклад: стораны па справе ў сілу закону вызвалены ад уплаты судовых выдаткаў, аднак, суд здавальняючы іскісца, прысудзіў на карысьць дзяржавы выдаткі з адказчыка; замест прысуджэньня падлягаючыя спагнаньню з адказчыкаў судовыя выдаткі прапарцыянальна разьмеру здаволеных судом іскавых патрабаваньняў, гэтыя выдаткі прысуджаліся з адказчыкаў салідарна, ня гледзячы на тое, што гэтакія зусім ня несьлі па справе салідарнай адказнасьці. Нярэдкі таксама выпадкі, калі судом пытаньне аб прысуджэньні судовых выдаткаў зусім не абмяркоўвалася.

Што-ж тычыцца вызваленьня судом ад уплаты судовых збораў за адсутнасьцю сродкаў, належыць памятаць, што хадайніцтва стараны аб вызваленьні ад уплаты судовых збораў павінна быць заўсёды судом абмеркавана з вынясеньнем пастановы, якое пагэтаму поваду абскарджваньню не падлягае, але можа быць адмяняема тым-жа судом, які яе вынес, пры наліччы, канечна, выстарчальных для такой адмены падстаў, якія павінны быць падрабязна зазначаны ў самой пастанове суду.

## Арт. 66—74 Гр. Пр. Код.

Спрачаючыяся маюць права весьці ў судзе справу асабіста альбо праз сваіх прадстаўнікоў у суд, як першай інстанцыі так і касацыйнай, ня маюць права разглядаць спраў бяз выкліку старон. Між тым, суды іншы раз зусім не паведамляюць стораны аб слуханьні спраў, а ў шмат якіх выпадках паведамленьні суду не адпавядаюць патрабаваньням главы VII ГПК. Ня кажучы ўжо аб тым, што позвы судоў не зьмяшчаюць у сабе тым паказаньняў, якія прадугледжаны арт. 68 ГПК, асабліва ў п. п. „в“ і „г“ гэтага арт., тым ня менш, уручаючымі позвы асобамі, вельмі часта зусім незахоўваюцца правілы выкладзеныя ў арт. 69—71 ГПК аб парадку ўручэньня позваў. З талёнаў ня толькі нельга ўстанавіць часу ўручэньня позваў, але вельмі часта на іх нават няма подпісаў выклікаемых асоб, і такім парадкам талёны позваў зварочваюцца ў суд з надпісам уручыцеля аб тым, што „позву ўручыў такі-та“. Наўпрэкі арт. 70 ГПК, у тых выпадках, калі службовая асоба якая дастаўляе паведамленьне, не застае выклікаемага, амаль ніколі ня мае адзнакаў на талёнах аб тым, каму з асоб, прадугледжаных гэтым артыкулам, уручана позва.

Пры наліччы такіх грубых парушэньняў працэсуальных норм аб уручэньні позваў рашэньне суду бязумоўна падлягае адмене, чым ствараецца судовая валакіта, дзеля зьнішчэньня якой судом неабходна прыняць належныя меры для ліквідаваньня беззаконнасьці ў галіне ўручэньня позваў.

## Арт. арт. 97—108 Гр. Пр. Код. Разбор спраў.

З шэрагу спраў разгледжаных ГК, угледжваецца, што суды прыступаючы да разбору спраў не высьвятляюць, якія маюць зьвесткі аб прычынах няяўкі выклікаемых асоб, а таксама, ці пасылаліся ім позвы наогул і ці ўручаны гэтакія з захаваньнем устаноўленых ГПК на гэты прадмет патрабаваньняў, выносяць пастановы аб слуханьні спраў у адсутнасьці неявіўшыхся старон. Зразумела, што такое становішча зьяўляецца няправільным і дзеля гэтага неабхоўна ў будучым памятаць, што арт. 98 ГПК дае права суду разглядаць справу ў адсутнасьці старон толькі ў тым выпадку, калі позвы ім уручаны і хоць няяўка іх не зьяўляецца пера-

шкодай к разбору і рашэньню справы, аднак, належыць з вялікай асьцярожнасьцю карыстацца правам слухаць справу ў адсутнасьці старон, бо перш за ўсё суд абавязан паставіць перад сабой пытаньне аб тым, ці мажліва па данай справе ў адсутнасьці неявіўшайся стараны выявіць сапраўдныя правы і ўзаемаадносіны між спрачаючыміся, і толькі пасьля сьцьвярджальнага рашэньня гэтага пытаньня разгледжваць справу ў адсутнасьці ісца або адказчыка.

Што тычыцца незьявіўшыхся сьведак, экспэртаў і г. д. то суд супроць іх павінен прымаць меры, паказаныя ў арт. 49—52 гл. V ГПК.

Нярэдкі таксама выпадкі парушэньня судамі арт. 108 ГПК. Так, суды, прызнаўшы адсутнасьць у ісца самага права на іск, ня выносяць судовага рашэньня аб адмове ў іску, а абмяжоўваюцца прыпыненьнем справы, выносячы пастанову або рашэньне.

Неабходна памятаць, што права прыпыненьня справы справаводзтвам за адсутнасьцю ісца права на іск прыналежыць, паводле арт. 246 ГПК толькі касацыйнай інстанцыі. Суд, прыняўшы справу да свайго справавядзеньня, абавязан дапусьціць стораны да ўдзелу ў працэсе і дапусьціць іх да судагаварэньня, а раз стораны дапушчаны да судагаварэньня, то суд па дакладнаму сэнсу артыкулу 108 ГПК, абавязан вынесьці судовае рашэньне, прычым, пры ўстанаўленьні адсутнасьці ў ісца права на іск адмовіць яму на гэтай падставе ў іску, але не прыпыняць справавядзеньнем.

## Арт. 109—112 Гр. Пр .Код. Аб пратаколах.

Судовы пратакол зьяўляецца адным з важнейшых судовых актаў, бо ён прадстаўляе ўстаноўленае законам доказацельства таго, што адбывалася ў пасяджэньні суду. Толькі з пратаколаў можна ўстанавіць ці захаваны судом правілы і тэрміны судавядзеньня і ці ўчынены тыя дзеяньні, якія неабходны для правільнага вырашэньня спрэчкі спрачаючыхся. Дзеля гэтага не зазначэньне ў пратаколе на ўчыненьне таго ці іншага дзеяньня служыць доказам таго, што гэта дзеяньне судом ня было ўчынена. Асабліва важнае значэньне мае пратакол для разгляду справы касацыйнай інстанцыяй, якая іменна на падставе пратаколу разьвязвае пытаньні аб тым, захованы ці не правілы і формы грамадзянскага судавядзеньня ўчынены ці не тыя ці іншыя працэсуальныя дзеяньні.

Аднак, ня гледзячы на такое важнае значэньне як самога пратаколу, так і правільнага яго складаньня, былі часта выпадкі калі пратакол у справе або зусім адсутнічаў, альбо паасобнымі судовымі дзеяньнямі (як напрыклад, аб мясцовым аглядзе) зусім не складалася, або калі адсутнічалі зьвесткі аб складзе суду, хто з выклікаемых па справе асоб зьявіўся і не зьявіўся і прычына іх няяўкі. Нялепш таксама абстаіць пытаньне і адносна занясеньня ў пратакол аб'ясьненьня старон, падаваньня імі доказаў і ўзбуджэньня хадайніцтваў. Так, напрыклад: замест кароткага выкладаньня аб'ясьненьня старон, у пратаколе зьмяшчаюцца паказаньні на тое, што ісьцец „падтрымліваў свой іск", а адказчык „іску ня прызнаў", што ісьцец або адказчык прасіў „справу слуханьнем адлажыць і выклікаць такіх-та сьведак" і г. д.

Неабходна памятаць, што пратакол пасяджэньня суду, зьяўляючыся адным з важнейшых судовых актаў, які павінен адбіваць у сабе ўсё, што адбывалася пры разглядзе справы, павінен быць па магчымасьці кароткім, але ва ўсякім выпадку, настолькі поўным, каб з яго відаць быў ясны ход справы. Аб'ясьненьні старон, паказаньні сьведак, заключэньні Пракурора і экспэртаў павінны быць выкладзены толькі ў істотных частках без непатрэбных для сутнасьці справы падрабязнасьцяй, бо зусім няма неабходнасьці ўнасіць у пратакол вывады старон з фактычнага матар'ялу справы. Паказаньні сьведак і аб'ясьненьні старон належыць выкладаць у першай асобе і па магчымасьці ў сапраўдных выразах дапытваемай асобы. Апрача паказаньня ў пратаколе месца і часу пасяджэньня або дзеяньня суду, яго складу, найменьні як зьявіўшыхся, так і незьявіўшыхся старон, сьведак і экспэртаў, таксама предмет справы, ці адбывалася разгляджэньне справы ў публічным пасяджэньні ці пры зачыненых дзьвярах, хто з судзьдзяў дакладваў справу і г. д., як роўна і заяўленьне старшынствуючага па арт. 104 ГПК. Паказаньні старон, сьведак і экспэртаў павінны быць падпісаны пасьля дачы імі паказаньняў, а потым ужо і складам суду.

## Арт. 113—117 Гр. Пр. Код. Прыпыненьне справавядзеньня.

Па агульнаму правілу вытварэньне па справе павінна прадаўжацца натуральным ходам да самага яго заканчэньня. Аднак, бываюць выпадкі, калі ход вытварэньня па справе прадстаўляецца немагчымым, або немэтазгодным, дзеля гэтага ў некаторых з гэтых выпадкаў суд абавязан (арт. 113 ГПК), а ў інш. можа (арт. 14 ГПК) спыніць справавядзеньне. Але раней чым спыняць справавядзеньне,

суд абавязан прылучыць да справы тыя зьвесткі, якія-б часьвядчалі неабходнасьць спыненьня справы. Між тым, былі выпадкі, калі суды без выстарчальных падстаў прыпынялі справавядзеньне і наадварот.

## Арт. арт. 118—122 Гр. Пр. Код. Ад доказах.

Кожная старана павінна даказаць тыя акалічнасьці, на якія яна робіць зноску, як на падставу сваіх вымаганьняў, або супярэчаньняў, суд-жа заклікан устанавіць фактычныя акалічнасьці справы, пагэтаму з прычыны мэты працэсу, устанаўленьне матар'яльнай ісьціны—суд ня толькі чакае прадстаўленьня доказаў ад спрачаючыхся, але і сам зьбірае гэтакія. не абмяжоўваючыся ў выбары іх тэй або іншай катэгорыяй. Значыцца, усе доказы могуць быць прыцягнены ў працэсе па погляду суду ў тым ліку і выклік сьведак, на якіх ні адна з старон нават не спаслалася. Але іншы раз доказы або знаходзяцца ў руках аднэй з старон, або могуць быць толькі вядомы апошняй, дзеля гэтага, у такіх выпадках, суд адкладваючы ў выпадку неабходнасьці разбор справы, прапануе таму ці іншаму з спрачаючыхся падаць дадатковыя доказы.

Такім парадкам, суд не займаючы інэртна-бязьдзейнага становішча і пасыўна-бязудзельнага наглядальніка ў ходзе разгорнутага спрачаючыміся судовага працэсу, у той-жа час можа умешвацца ў круг прадстаўленьня старанамі доказаў па справе (арт. 119 ГПК), як з мэтаю дапаўненьня іх (арт. 118 ГПК), так і з мэтаю папярэджаньня надмернага прадстаўленьня доказаў, якія з відавочнасьцю могуць толькі тармазаваць справу, або загрузіць яе такімі доказамі, якія да данай справы абсалютна ніякай адносіны ня маюць. Аднак, усякае такое дзеяньне суд абавязан занесьці ў пратакол судовага пасяджэньня з вынясеньнем пастановы.

Тым ня менш касацыйная практыка ГКК ўстанавіла, што вельмі часта ўдзел суду ў разглядаемай справе зводзіцца да ролі наглядальніка, або калі з прычыны няяўкі адказчыка, суд лічыць, што сваёй няяўкай ён не прад'явіў ніякіх супярэчаньняў супроць іску, дзеля гэтага неабходна памятаць, што будучы заклікаым вырашаць справу суд не павінен пры яе разгледжаньні быць інэртна-бязьдзейным і пасыўна-бязудзельным. Няяўка-ж адказчыка ў суд сама па сабе ня можа служыць доказам іску.

## Арт. арт. 175—176 Гр. Пр. Код. Выкладаньне рашэньняў.

Ня гледзячы на тое, што арт. 176 ГПК прадугледжвае тыя істотныя моманты, якія павінны зьмяшчаць у сабе рашэньне суду па грамадзянскіх справах, аднак, вельмі часта суды выкладаюць рашэньні ў такім відзе, што касацыйная інстанцыя пазбаўлена магчымасьці праверыць законнасьць іх у тым ці іншым кірунку. У шмат якіх выпадках суды абмяжоўваюцца паказаньнем на тое, што „іск ісца даказан судовым разьбірацельствам" і выносяць рашэньні аб прысуджэньні іскавой сумы. Ня прыходзіцца пагэтаму даводжваць, што пры такой „матывіроўцы" рашэньня, касацыйная іистанцыя бязумоўна пазбаўлена магчымасьці праверыць, чым іменна кіраваўся суд пры вынясеньні рашэньня, г. зн., якія з доказаў па справе пакладзены ім у падставу рашэньня, а якія адхілены. Вельмі часта таксама суды ў рэзалюцыйнай часьці рашэньня выкладаюць падставы рашэньня і арытмэтычныя вылічэньні для вызначэньня прысуджаемай сумы, або калі суды абавязваюць трэціх асоб, зусім ня ўдзельнічаючых у справе, як, напрыклад: па іску прыватнага домаўладальніка да члена саюза аб высяленьні—суд пастанавіў рашэньне аб высяленьні адказчыка, аднычасова абавязаў Камгас прадаставіць адказчыку кватэру, або калі рэзалюцыйная часьць рашэньня выкладзена так, што нельга яе прывесьці ў выкананьне, як, напрыклад: спагнаць з адказчыка кватэрную плату па стаўках Камгасу, або ў выпадку адмовы адказчыка аб прыняцьці і выхаваньні дзіцяці, абавязаць яго выдаваць ісцу штогодна такую-та суму.

Само сабой зразумела; што ў такіх выпадках і ім падобных рашэньне суду падлягае адмене. Дзеля гэтага неабходна заўсёды памятаць, што суд сваім рашэньнем па грамадзянскіх справах павінен канчаткова вырашыць спрэчку між спрачаючыміся, а таму рашэньні па грамадзянскіх справах павінны выкладацца так ясна і дакладна, каб старанам ня прыходзілася зварочвацца ў суд за дапаўненьнем рашэньняў у парадку арт. 181 ГПК, або за іх тлумачэньнем у парадку арт. 185 ГПК.

Дзеля гэтага рашэньне па грамадзянскіх справах перш за ўсё павінна выкладацца ад рукі адным з судзьдзяў, як гарантыі сапраўднасьці, яно павінна складацца з апісальнай матывіравачнай і рэзалюцыйнай часьцей. Першая часьць—апісальная, павінна зьмяшчаць ў сабе час пастановы рашэньня, склад суду і найменьне спрачаючыхся і паказаньне прадмету спрэчкі з зазначэньнем праваадносінаў, на якіх грунтуе свае правы ісьцец паводле іскавой заявы (як, напрыклад, аб спагнаньні 150 р. па даўгавых абавязацельствах, скасаваньне дагавору, высяленьне з кватэры і інш.).

Другая часьць—матывіровачная, павінна зьмяшчаць у сабе кароткі выклад
самой працы суду, прывёўшых яго к даным вывадам, г. зн. здабытыя судовым
разьбірацельствам даныя, вывады суду і законы, на падставе якіх суд лічыць іск
падлягаючым здавальненьню або аб адмове ў іску, бо ацэнка доказаў, якая пры-
вяла суд к прызнаньню адных фактаў і адхіленьню другіх, павінна быць прыве-
дзена ў рашэньні для абаснаваньня вывадаў суду, чаму суд з шэрагу супярэчных
довадаў выбраў адзін і адхіліў другі.

Трэцяя часьць—рэзалюцыйная, павінна зьмяшчаць у сабе поўны, ясны і
катэгарычны адказ па сутнасьці заяўленых іскавых вымаганьняў. У гэтай часьці,
рашэньне павінна быць выкладзена так, каб яно адказвала: з каго, каму, колькі
і ў якім разьмеры прысуджаецца і каму ў чым адмоўлена, парадак выкананьня,
парадак разьмеркаваньня судовых трат і абскарджваньне рашэньня.

Пры прысуджэньні грашовай сумы павінен быць паказан разьмер яе; пры
прысуджэньні маемасьці, якая складаецца з злучнасьці прадметаў, павінны быць
пералічаны прысуджаныя прадметы. Калі-ж прадмет спрэчкі вызначан радавымі
прыметамі, павінна зазначацца прысуджаная колькасьць, а пры прысуджэньні
маемасьці натурай, павінна паказвацца грашовая яе вартасьць, на выпадак не-
магчымасьці спагнаць у натуры. Суд абавязан разьвязаць справу ва ўсім аб'ёме
выявіўшыхся пры разглядзе яе праваадносінаў і пастанавіць рашэньне па ўсіх
выцякаючых з справы правох і абавязках старон, хоць-бы і непастаўленых на аб-
меркаваньне іскавым прашэньнем, дзеля гэтага адсылка старон да новага састая-
цельнага справаводзтва для разгляду якіх-небудзь прыцязаньняў, якія выцякаюць
з данай справы (напрыклад, пытаньне аб узаемных разьліках пры прызнаньні
зьдзелкі несапраўднай альбо пры яе скасаваньні), як гэта робяць некаторыя суды,
зьяўляецца бязьдзельна недапусьцімай, як утвараючая зусім невядомую савецкаму
суду судовую валакіту.

Паказаньне парадку **абскарджваньня** састаіць ў назначэньні тэрміну на пада-
чу скаргі, інстанцыі, у якую павінна быць адрасавана скарга і парадку падачы.
Дзеля гэтага, практыкаваўшаяся ў некаторых судох абмежаваньне выразамі: „па-
радак абскарджваньня абвешчан", або „рашэньне касацыйнае" зьяўляецца зусім
недапусьцімым і ў будучым судамі з практыкі павінна быць адхілена.

У тых выпадках, калі на рашэньне па справе можа быць ужыта прыватная
скарга (як, напрыклад, на пастанове суду ад дапушчэньні рашэньня к неадкладна-
му выкананьню) павінен быць таксама паказан тэрмін і парадак падачы прыват-
ных скаргаў. Апрача таго, вельмі часта прыкмячаліся выпадкі, калі рашэньні су-
ду ня былі падпісаны народным засядацелем, або падпісаны народнымі засядаце-
лямі, але не падпісаны нарсудзьдзёй.

Само сабой разумеецца, што такое рашэньне паводле арт. 175 ГПК ня мо-
жа лічыцца судовым рашэньнем, дзеля гэтага, на недапушчэньне падобных па-
рушэньняў неабходна таксама зьвярнуць увагу.

Старшыня Грамадзянска-Касацыйнай
Калегіі Найвышэйшага Суду БССР **Зыбко**.

1927 г. № 1.

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**

